«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 4 (*200*), красавік 2023 года

# Літаратурная Беларусь

Выпуск № 4 (*200*) (красавік)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ

kamunikat.org/litaraturnaja_bielarus
facebook.com/litaraturnaja.belarus
t.me/litaraturnajabelarus

## Змест





*Сябры!*

*Мы радыя прапанаваць вам **200-ы выпуск** «ЛІТАРАТУРНАЙ БЕЛАРУСІ»!*

*За 16 гадоў (першы «новачасны» нумар «ЛБ» з'явіўся на Купалле 2007-га) былі тысячы публікацый апавяданняў, паэтычных нізак, урыўкаў з аповесцяў і раманаў, крытычных і літаратуразнаўчых артыкулаў, мастацкіх перакладаў, гумарэсак, эсэістычных і публіцыстычных тэкстаў сотняў аўтараў і аўтарак — класікаў і пачаткоўцаў...*

*Паўторым яшчэ раз:*

*«Літаратурная Беларусь» — гэта свабодная трыбуна паэтаў, празаікаў, драматургаў, крытыкаў і чытачоў Беларусі;*

*гэта фармаванне незалежнай творчай думкі нацыянальнай эліты;*

*гэта напамін аб тым, што Беларусь — і дзяржаўная, і літаратурная — стваралася найперш пісьменнікамі, і яна патрабуе іхняй новай працы і апантанасці.*

*«Літаратурная Беларусь» — гэта новы час чытання.*

*А таму заставайцеся з «Літаратурнай Беларуссю» — з яе бібліятэчнымі «падшыўкамі» ды інтэрнэтнымі PDF-версіямі, старонкамі яе Тэлеграмканала і Фэйсбука, — учарашнімі, сённяшнімі і будучымі!*

# Беларускі рэпартаж

Уладзімір МАРОЗ



Фота philology.by

Адной са значных падзей у Беларусі пачатку 1980-х гадоў у агульнаграмадскім маштабе была перамога каманды «Дынама (Мінск)» у футбольным чэмпіянаце СССР. Пад'ём эмацыянальны быў такі, быццам выйгралі мы чэмпіянат свету, на скрайні выпадак — чэмпіянат Еўропы...

На той час я — малады сем'янін, архітэктар «Мінскпраекта», студэнт-завочнік Літаратурнага інстытута. Мне пашчасціла пабыць на апошнім позневосеньскім матчы мінскага «Дынама» ў тым пераможным сезоне 1982 года. Гульня з маскоўскім «Спартаком» адбывалася ў Маскве пад дахам алімпійскага спартыўнага комплекса — тады знячэўку пайшла звычка гуляць на штучным полі. Якраз у гэтым супрацьстаянні і павінна было вызначыцца, хто стане чэмпіёнам СССР. А я быў у той час на сесіі ў Літаратурным інстытуце — чаму б не скарыстацца момантам і не схадзіць на футбол, дзе чакалася наша перамога? Са мною былі мой таварыш-расіянін (па нацыянальнасці немец) і наш аднакурснік азербайджанец. Без аніякай задняй думкі мы ўтрох буйна перажывалі за беларусаў, што выклікала адпаведную негатыўную рэакцыю ў расійскіх заўзятараў побач з намі. Але што з таго — у тым няпростым паядынку нашы перамаглі спартакаўцаў 4:3! Якая была гульня, якія галы! Залаты чэмпіёнскі гол забіў Сяргей Алейнікаў.

Кадры гэтай спартыўнай барацьбы ёсць у знакамітым фільме «У атацы ўся каманда», але тады я не быў яшчэ знаёмы з аўтарам фільма Уладзімірам Цеслюком...

Усцешвала маю тутэйшую душу і тое, што ў той год пачаліся тэлерэпартажы па-беларуску. Вось як згадвае той час Алесь Камароўскі, які сёння абсалютна справядліва можа сказаць аб сабе: «першы беларускамоўны футбольны каментатар»:

«1982 год стаў і магутным штуршком развіцця беларускай мовы. Я тады працаваў рэдактарам дзіцячай рэдакцыі беларускага тэлебачання... А старшыня Камітэта па тэлебачанні і радыёвяшчанні быў мудры чалавек, выдатны паэт Генадзь Бураўкін. Яго запрашэнне і прапанова весці рэпартажы на беларускай мове мяне не толькі шакіравалі, але і ўзрушылі — вось так, знянацку? Ці хопіць слоўнікавага запасу? З іншага боку, чым мы горшыя за грузінаў, украінцаў, літоўцаў, у якіх футбол, і не толькі гэты від спорту, загучаў на роднай мове? Я згадзіўся»...

Дакладна не памятаю, калі з асабіста пазнаёміўся з Алесем Камароўскім як з земляком па Мікалаеўшчыне ці як з калегам па літаратурнай каляіне, але ў вочы мы былі ўжо знаёмыя: я быў сведкам, як у вясковым клубе Алесь чытаў свае вершы мікалаеўцам. Так, ён быў паэтам, як і старшыня тэлебачання. Гэта да недаацэненай ролі беларускіх пісьменнікаў — хто іншы мог у той час учыніць беларускамоўны рэпартаж? А мне яшчэ была і вельмі прыемнай мікалаеўская інтанацыя Алеся — такога маўлення я не чуў больш нідзе. І ўвогуле беларуская футбольная лексіка — як цяпер памятаю яго словы: «Увага! Кутавы ўдар!». Мне падабаецца вобраз «кутавога ўдару». Перадача можа пайсці ў нікуды, а можа знайсці ўдзячнага гульца, які заб'е гол у браму. У той час беларусам удалося забіць свой гол.

Анягож — беларускі рэпартаж! Футбольныя заўзятары ў пераважнай большасці не гаварылі па-беларуску, але перамога яднала іх як беларусаў. Простыя заўзятары футбола ўспрынялі рэпартажы на роднай мове станоўча, нават з энтузіязмам. Калі цяпер запытаць чалавека, якому пад шэсцьдзясят і болей, кожны ўспомніць і перамогу мінскага «Дынама» 1982 года, і беларускі рэпартаж, і дакументальны фільм «У атацы ўся каманда», на прагляд якога ў кінатэатр стаялі чэргі.

Наступныя тэлерэпартажы былі больш удалымі, эмацыянальнымі. Яшчэ ў першым эфіры (гэта быў матч з «Нефтчы» з Баку) Алесь Камароўскі пажартаваў, што беларуская мова павінна падтрымаць каманду, прывесці яе да вяршыні — чэмпіёнства краіны. Ці ж ведаў ён тады, што словы ўжо восенню здзейсняцца? Вядома, не ведаў.

Але самае галоўнае — каманда выйгравала. Дарэчы, аб тым, што каманда выйграе чэмпіянат СССР, гаварыў і сам Малафееў. Былы зорны гулец «Дынама», у сваю каманду ўжо трэнерам ён прыйшоў у 1978 годзе, вярнуў каманду ў вышэйшую лігу, а потым і паабяцаў чэмпіёнства. Так яно і адбылося!

Мне пашчасціла быць асабіста знаёмым з Эдуардам Васільевічам. У 2002 годзе рэжысёр Уладзімір Цяслюк здымаў па маім сцэнарыі фільм «Малафееў. Дваццаць гадоў пасля». Сустракаліся на стадыёне «Дынама», з якім так шмат звязана ў легендарнага беларускага трэнера. Майстэрства было на высокім узроўні, але перамога прыйшла найперш дзякуючы высокаму духу каманды. Эдуард Васільевіч быў перакананы, што галоўнае ў жыцці — духоўнасць. Думаю, мала хто ведае, што Малафееў пісаў вершы...

У кожнага з гульцоў «залатога» мінскага «Дынама» свае згадкі з незабыўнага 1982 года: самыя яркія моманты, цікавыя выпадкі, адчуванні ад перамогі. Як адзначаў Юрый Пудышаў, які нядаўна адышоў з жыцця: «Поспех 82-га у шмат чым прыйшоў таму, што мы гулялі для народа, працілі ўзаемнасцю за пачуцці, якія адчувалі ў адносінах да сябе. У нас жа і прэміяльных асаблівых не было. І бегалі па полі, выкладваліся найперш для заўзятараў». Падобныя адчуванні засталіся і ў Сяргея Бароўскага, які пасля стаў футбольным трэнерам. Сяргей Алейнікаў, які жыве ў Італіі, напісаў кнігу «І жыццё, і слёзы, і футбол». Шмат цікавага могуць распавесці Міхаіл Вяргіенка, які потым стаў трэнерам і спартыўным функцыянерам, Андрэй Зыгмантовіч, Ігар Гурыновіч, Юрый Кандрацьеў, якія таксама сталі трэнерамі. Рана пайшоў з жыцця любімец публікі Аляксандр Пракапенка...

«Мне шанцуе. Калі я здымаю фільм, то нашы выйграюць чэмпіянат», — так гаварыў рэжысёр фільма «У атацы ўся каманда» Уладзімір Цяслюк. І атрымлівалася, што ўсе ўтрох — трэнер Малафееў, каментатар Камароўскі і рэжысёр Цяслюк — быццам бы загадзя ведалі, што «Дынама» стане чэмпіёнам.

Але фільм пачаўся не адразу. Наша каманда была ўжо ў лідарах чэмпіяната СССР, станавілася зразумелым, што нешта павінна адбыцца. Аўтарам «кінаідэі» стаў мэнэджар кінавытворчасці на «Беларусьфільме» Аляксандр Шкадарэвіч. Прапанову падтрымалі ў Дзяржкіно БССР, і стужка аб чэмпіёнскім «Дынама» пачала здымацца...

Фінальны эпізод кінаэсэ — лугавы бераг Нёмана каля вёскі Мікалаеўшчына, дзе ў свой час вясковыя хлопцы гулялі ў футбол. Сярод іх быў і Алесь Камароўскі, які потым не толькі вырас у паэта, але гадоў пятнаццаць сам гуляў у футбол за інтэгралаўскую «Арбіту» на першынстве Беларусі. Але, галоўнае, воляю лёсу ён стаў першым беларускамоўным футбольным каментатарам. Няхай і не так удала, як у маладосці, ён працуе з мячом — узрост нікуды не дзенеш. А мы паднімемся над лугам і ракою і потым з вышыні птушынага палёту ўбачым перапоўнены стадыён і тысячы заўзятараў, якім футбол нясе радасць...

*Друкуецца ў скароце.*

# Алесь АДАМОВІЧ: «Чарнобыль не ззаду, ён спераду»

***Пісьменнік, літаратуразнаўца, грамадскі дзеяч Алесь АДАМОВІЧ (1926—1994) адзін з першых на прасторах былога Савецкага Саюза адчуў і ўсвядоміў трагічнасць і маштабнасць аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. І ўсё сваё далейшае — на жаль, кароткае — жыццё прысвяціў барацьбе з яе наступствамі.***

***«Так здарылася, што якраз уноч з 25 на 26 красавіка я ляцеў лячыцца на Каўказ, а на зямлі ў гэты час усё якраз здзяйснялася. Першая інфармацыя па тэлебачанні пра аварыю ў нейкім Чарнобылі прагучала невыразна, але трывога кальнула: у 1986 годзе мы ўсё яшчэ жылі са звычкай, што пра такія рэчы не паведамляюць, але ўжо калі паведамілі… Удалечыні ад радзімы трывога аб тым, што дома адбываецца, заўсёды вастрэй. Таму, калі вярнуўся ў Мінск, стаў, можа быць, самым успрымальным да чарнобыльскай інфармацыі», — згадваў ён.***

***«Атамная зброя, атамная энергетыка не былі для А. Адамовіча terra incognita. Ён выдатна разумеў, чым гэта пагражае чалавецтву ў выпадку вайны ці аварыі, — згадвала ў прадмове да бацькавай кнігі дзённікавых запісаў, ліставання і публіцыстыкі “…Имя сей звезде Черновыль” (2006 г.) Наталля Адамовіч. — Ён шмат аб тым думаў, чытаў, пісаў. А думка, што са з’яўленнем атамнай бомбы “чалавецтва стала смяротным у дваццатым стагоддзі” — важнейшая ў яго творчасці ў 80-я гады… Калі здарыўся Чарнобыль, ён ужо мог уявіць яго рэальныя маштабы: з 350 уяўных хірасімскіх бомбаў 300 упалі на Беларусь… Ён прыходзіць да высновы, што Чарнобыль — буйнейшая з глабальных катастроф XX стагоддзя. Праз пяць гадоў ён пісаў, што “гэта — надоўга. Чарнобыль не ззаду, ён спераду, на шмат дзесяцігоддзяў і нават стагоддзяў”».***

***«Літаратурная Беларусь» змяшчае падборку з «чарнобыльскага» эпісталярыю Алеся Адамовіча — як сведчанні тых жахлівых падзей і грамадзянскай адказнасці творцы.***



Малюнак be.wikipedia.org

Алесь Адамовіч

**Ліст Васіля БЫКАВА Алесю АДАМОВІЧУ**

*3.05.1986 г.*

Саша, дарагі дружа!

Толькі што ў нас была Вера [жонка А. М. Адамовіча. — *Рэд.*], пачаставала кулічом і яйкамі (да Вялікадня), Ірына [жонка В. У. Быкава. — *Рэд.*] праводзіла яе, а я сеў за гэты ліст.

Мы тут, жартам, складалі табе тэлеграму ў тым сэнсе, каб ты бярог сябе, бо цалкам магчыма, што ўяўляеш зараз адзіны асобнік генафонду нацыі, які спатрэбіцца неўзабаве на радзіме. Увогуле цяпер становішча, падаецца, нармалізавалася (або каля таго), але справа ў тым, што ў першыя дні, якія прыпалі на выхадныя, ніхто радыёактыўнасць не вымяраў, а менавіта тады праз усю Беларусь на поўнач прайшоў радыёактыўны шлейф, у якім была найбольшая канцэнтрацыя. Яшчэ і ў панядзелак прыборы апынуліся зашкаленымі ад 20-30-кратнага перавышэння нормы. Два паўднёвых раёны Гомельшчыны эвакуіруюцца.

Вось такія нашыя справы. Многія вельмі засмучаныя, іншыя ж не звяртаюць увагі — п’юць і шпацыруюць, як і заўсёды на свята…

Саша, ты за нас не трывожся: мы ва ўладзе божай — інакш не скажаш. П’ем ёд (4 кроплі на паўшклянку малака) і кабэрнэ, гавораць, выводзіць. Але, гавораць, гарэлка выводзіць лепш, калі б яна была. Гарэлкі няма!! Нават на свята…

Вельмі жадаем табе добрага надвор’я і бясхмарнага настрою. І — прыязджай бадзёрым і здаровым.

Абнімаем — твой Васіль і Ірына.

**Ліст Алеся АДАМОВІЧА Васілю БЫКАВУ**

*7.5.1986*
*[г. Жалезнаводск]*

Дарагія пацярпелыя — Васілёк, Ірына і ўвесь народ, цяпер ужо двойчы хатынскі! Або так: хатынскі і плюс хірасімскі. Адно кліча другое, так ужо на нябёсах запісана, ці што.

Шлю малітвы за вас усіх, над кім прапаўз шлейф нашай высокашаноўнай навукі, з агідай успамінаецца тэлефізіяномія галоўнага па гэтых справах акадэміка (паўгода назад вяшчаў з тэлескрыні) — вядома ж, усякая там боязь за «мірны атам», гэта ў іх там, а мы аптымісты, і пачаць. Побач з бюракратам казённы аптыміст — галоўны наш далакоп. Дзякуючы «патрыятычнаму аптымізму» мы вайну сустрэлі ў падштаніках. А цяпер вось — Чарнобыль. Цікава, будзем дабудоўваць свой — у 30 км ад Мінска? Ці ўсё-ткі схамянемся? Хоць бы такім коштам.

А я, як знарок, з’ехаў ад усіх вас. І ад Наташы з Верай [дачка і жонка А. М. Адамовіча. — *Рэд.*]. Нешта накшталт дэзертыра. Не «генафонд», а дэзертыр!

Не, свет звар’яцеў! Тыя вунь рукі ад зларадн асці паціраюць, а мы распавядаем, як выдатна паказалі сябе пажарнікі і міліцыянеры. Можна ўявіць (лёгка гэта зрабіць), як 60 разоў знішчанае жыццё будзе ценем, попелам выдаляцца ад планеты Зямля, а гучаць будуць усё тыя ж цені-галасы: «Выдатна мы іх, няўклюд!», «Не, як выдатна пажарнікі!»…

Я павінен ехаць да навукоўцаў, у Маскву. Цікава б спытаць высакалобых: адказвае ці не адказвае навуковец-фізік, хімік і г.д., калі яго небяспечную штучку даводзіць, рэалізуе безадказна-п’яны (або з пахмелля) «дзядзька Вася»? (Меліяратараў ужо аб гэтым спыталі — махаюць рукамі, а мы прычым, калі наша дабро перайначваюць у зло на апошнім прагоне!) Думаю, што яны адказныя. Думай пра ўвесь ланцужок, а калі ненадзейны, тады падумай яшчэ раз!

А ты гаворыш, гарэлкі няма! Ды я б аддаў нас усіх на гадок-два ў рукі Карпюка і Дудачкіна [А. Н. Карпюк, П. П. Дудачкін — беларускі і расійскі пісьменнікі. — *Рэд.*], яны б асушылі — хай жыве вось такая меліярацыя!

Значыць, не хочаце сюды? Адпусці тады Ірыну з Верай і Наташай, калі сам да Тэтчэр [у Вялікабрытанію. — *Рэд.*] рвешся. Хай пагуляюць, пакуль можна, пакуль тут чыста. Пакажу Каўказ, хоць бы з поўначы.

Абдымаю і жадаю, каб усё гэта — на сухі лес!

Ваш Адамовіч.

**Ліст Алеся АДАМОВІЧА Ігару ДЗЯДКОВУ**

*22.05.1986*
*[г. Мінск]*

Дарагі Ігар Аляксандравіч

[І. А. Дзядкоў — рускі літаратурны крытык, аўтар кніг пра В. Быкава, таварыш А. Адамовіча і В. Быкава. Жыў у Кастраме, апошнія гады — у Маскве. — *Рэд.*]!

Сёння вярнуўся з Жалезнаводска на сваю, цяпер ужо двойчы шматпакутную, зямлю. Вы там нават не ўяўляеце, што гэта і як, і чым абернецца ў будучым. Гэты самы, будзь ён пракляты, мірны атам аказаўся з тварам, ды не, мордай таго ж крываж эрнага Марса, і хоць нагамі стаяў на зямлі ўкраінскай, але да яе спіной, а да нас мордай павярнуўся — па ветры. Ну і…

Магу толькі сказаць, што той лагодн ай зямлі, краю, які Вам знаёмы, ужо няма, і ці будзе, — не ведаю. І мы — не тыя.

Увомірг усё змянілася. Пытаецце яшчэ і пра наш з’езд [Саюза пісьменнікаў Беларусі. — *Рэд.*]. Мурня ўсё гэта…

Я выступаў пра героя нашага часу — пра бюракрата. Не ведаў толькі, што справы яго яшчэ і радыёактыўнасцю пагражаюць.

Прывет Вам, цісну руку! А кастрамчанам — усходняга ветра!

*(Пераклад з рускай.)*

**З ліста Алеся АДАМОВІЧА Міхаілу ГАРБАЧОВУ**

*1 чэрвеня 1986 г.*

Глыбокапаважаны Міхаіл Сяргеевіч!

Калі ласка, не палічыце тое, што Вы тут прачытаеце, пісьменніцкай фантазіяй Алеся Адамовіча. Я пішу тое, што ведаю і думаюць многія буйнейшыя вучоныя Беларусі і некаторыя партыйныя работнікі, у нас былі самыя гарачыя абмеркаванні гэтых праблем. Не будзем крычаць «на ўсю Еўропу», але мы разумеем, што Беларусь перажывае нешта супастаўляльнае толькі з яе трагедыяй у гады мінулай вайны.

Пад пытаннем само існаванне (фізічнае) дзесяцімільённага народа. Радыяцыя ўдарыла, перадусім, па нашай рэспубліцы. Як пісала адна цэнтральная газета, не ўсведамляючы, што піша: «На шчасце, вецер дзьмуў не на Кіеў». Насамрэч, у самыя грозныя дні, з 26 па 30 красавіка (а потым яшчэ шмат дзён), вецер цягнуў радыёактыўныя ападкі на Гомель, Магілёў, Жлобін, Мазыр, Слаўгарад, Краснаполле, Рэчыцу, Хойнікі, Нароўлю, Брагін, Пінск, Слуцк, Брэст… Дасталося і Мінску. А паміж гэтымі гарадамі тысячы вёсак. Колькі людзей атрымалі розныя дозы радыяцыі і праз колькі дзён ці гадоў гэта скажацца на кожным, сказаць цяжка. Але калі мець на ўвазе, што БОЛЬШАЯ ЧАСТКА РЭСПУБЛІКІ была засыпана ёю, — размова пойдзе пра лічбы найцяжкія. <…>

Калі не будуць неадкладна прынятыя меры, не будзе зроблена ў карацейшыя тэрміны тое, што абсалютна неабходна (на думку вучоных), яшчэ мільёны людзей у Беларусі будуць пакутаваць (а многія загінуць), і тады можна будзе сказаць, што адбылася трагедыя — пастрашней той, якую наш народ перажыў у 1941—1944 гадах.

Усім гэтым людзям (у межах Беларусі і памежных раёнах іншых рэспублік) таксама, як, верагодна, і ва Украіне, цяпер пагражае РАДЫЯЦЫЙНАЕ АТРУЧВАННЕ ПРАЗ ПРАДУКТЫ ХАРЧАВАННЯ. <…>

У НАС ФАКТЫЧНА НЯМА НАЛЕЖНАЙ КОЛЬКАСЦІ ПРЫБОРАЎ ДЛЯ ЗАМЕРА РАДЫЯЦЫІ Ў ПРАДУКТАХ ХАРЧАВАННЯ. <…>

Патрэбна спецыялізаваная арганізацыя, «штаб», людзі, якія толькі гэтым і займаліся б — прадуктамі харчавання. З якіх можна было б спытаць, але ў якіх былі б усе правы і паўнамоцтвы патрабаваць, дазваляць, забараняць. І вывозіць дзяцей, падлеткаў, цяжарных жанчын і наогул усіх, каго магчыма! Шырока і за межы рэспублікі, і не на месяц-два, а пакуль не нармалізуецца абстаноўка. Самая заўважная чыноўніцкая інертнасць і недапрацоўкі — тут. Радыяцыя імгненная, чыноўнік марудлівы, азіраецца, — такая ўжо яго прырода. Ды і так сказаць: НАДЗВЫЧАЙ МАЛОЙ АКАЗАЛАСЯ РЭСПУБЛІКА ДЛЯ ТАКОЙ ВЯЛІКАЙ БЯДЫ, сваіх чыстых раёнаў для эвакуацыі яўна недастаткова. <…>

Час усвядоміць усім, што кожны дзень і гадзіна прамаруджвання — недаравальны грэх перад будучыняй народа. Ніякія нашы апраўданні і тлумачэнні хворыя нашчадкі не даруюць. І неапраўданых ахвяраў мы самі сабе не даруем. <…>

Дарагі Міхаіл Сяргеевіч, гэта не проста станцыя ўзарвалася, але і ўвесь той комплекс безадказнасці, недысцыплінаванасці, бюракратызму <…>.

Прабачце, але Беларусь насамрэч на мяжы прорвы! Патрэбна неакладная дапамога народу, які сам заўсёды ўсім ахвяраваў у цяжкія для краіны часы. Беларусы рэдка плачуцца. Вы гэта маглі заўважыць і па цяперашніх паводзінах нашых людзей і кіраўнікоў. Але тут пытанне стаіць неадкладнае, жыццё незлічонай колькасці людзей залежыць ад таго, ці арганізуем мы сапраўдны, прафесійны, а не фармальны толькі кантроль за прадуктамі харчавання, ці забяспечым службы сучаснай апаратурай, падрыхтаваўшы неабходную колькасць спецыялістаў.

Так шмат залежыць ад такога па сутнасці нямногага. Толькі не змарнаваць час!

*(Пераклад з рускай.)*

**Ліст Алеся АДАМОВІЧА Ігару ДЗЯДКОВУ**

*8 чэрвеня 1986 г.*

Дарагі Ігар Аляксандравіч!

Атрымаў пісьмо Вашае, калі вярнуўся з Масквы. Калі дайшло да мяне, да свядомасці, што насамрэч адбываецца ў Беларусі, з Беларуссю (па канчатковых, калі не зірнем праўдзе ў вочы, «выніках» — пастрашней той, мінулай, 1941 — 1944 гг. трагедыі!), я паімчаўся прама да М.С.Г. [кіраўніка СССР М. Гарбачова. — *Рэд.*]. Да [яго] памочніка дабраўся, пакінуў ліст з усім, што даведаўся і зразумеў, а назаўтра ўжо быў адказ (праз памочніка) і тут жа размова з нашым кіраўніцтвам на вышэйшым узроўні, а сёння ў Мінск прымчалася Мінахоўздароўя (галоўны ўсыпляльнік наш) ды інш. асобы.

Акрамя ўсяго іншага (думаю, што ўсе мае кнігі не ідуць ані ў якое супастаўленне з адным гэтым адчайным лістом), я пераканаўся: ёсць, ёсць у нас людзі там, якія чакаюць, хочуць поўнай інфармацыі, але аматараў падаваць «голікаўшчыну» [Ф. І. Голікаў — начальнік Галоўнага разведупраўлення перад пачаткам Вялікай Айчыннай вайны. — *Рэд.*] занадта шмат. І гэта каштуе нам не танней, чым у траўні-чэрвені 1941-га…

Так, не ведаю цяпер, ці звышлітаратуру рабіць ці нешта больш практычнае, наогул не літаратурнае!

Прывітанне Вам і добрых для Кастрамы вятроў! (Праўда, для некага ўсё роўна нядобрыя.)

# На ўласны шлях!

## З прычыны выхаду зборніка Максіма Танка «Пад мачтай»

*Падрыхтаваўшы ў 2006 годзе да друку кнігу Антона Луцкевіча (1884—1942) «Выбраныя творы: праблемы культуры, літаратуры і мастацтва», я паказваў, якія яго беларускамоўныя тэксты, улічаныя ў бібліяграфіях, дзеля матэрыяльных прычын не трапілі ў гэты зборнік. А яшчэ ж былі не ўлічаныя бібліёграфамі тэксты. А яшчэ былі тэксты, пісаныя для польскіх і расійскіх чытачоў...*

*Паступова наша веданне творчае спадчыны Антона Луцкевіча абагачаецца. I тую кнігу, што выйшла ў 2006-м, варт было б перавыдаць дапоўненым выданнем, але ў Беларусі цяпер гэта наўрад ці магчыма. Не ведаю, ці дажыву, ці дачакаюся такое магчымасці, каб убачыць новае выданне Луцкевічавай кнігі. Таму буду публікаваць тут тое, што надрукавана даўно, даўнавата выяўлена і патрабуе рэпублікацыі з належнымі каментарамі.*

*У 2006-м, звяртаючы ўвагу на тое, што Антон Луцкевіч сябраваў з прадаўжальнікамі закладзенай Песняром чыстае крыві традыцыі, Уладзімерам Жылкам ды Наталляй Арсенневай, спрыяў ім, я ад імя чытачоў задаваў пытанне: а як ён ставіўся да найвыдатнейшага з паэтаў Заходняе Беларусі? I адказваў: «Мяркуючы па тым, што Луцкевіч і Максім Танк няблага кантактавалі, я ўпэўнены, што магчымы яго тэкст пра Танка. Трэба шукаць». I такі тэкст, у якім крытык характарызуе творчасць паэта, знайшоўся.*

***Анатоль СІДАРЭВІЧ***

Антон ЛУЦКЕВІЧ



Антон Луцкевіч пасля заканчэння Мінскай гімназіі, 1902 г.

Як надыходзе Вясна, поўнымі жменямі сыпле Прырода краскі па зямлі. I дзіўным хараством зьзяюць-сьвецяцца гэтыя веснавыя краскі, а кожная зь іх чаруе вока нашае як закончаны, ідэальны мастацкі твор Прыроды. Збуджаная стыхія Зямлі, разьбіўшы ледавыя путы Зімы, з надзвычайным размахам стараецца выявіць усе свае жыцьцёвыя сілы, творачы Красу.

У веснавыя дні юнацтва малады паэта, пачуўшы ў сабе нясьведамую дагэтуль творчую моц, поўнымі жменямі кідае пэрлы сваей паэзіі, спароджаныя натхненьнем, і яны — як тыя краскі веснавыя — чаруюць нас сваім хараством і дзіваць багацьцем. З перапоўненае сьвятым агнём душы маладога творцы вырываюцца на вольны сьвет. Зь нетраў падсьведамасьці вызваляецца гэтак творчая стыхія.

Гэты паэтыцкі абраз мо' не зусім адпавядае ролі літаратурная крытыка. Але паэзія Максіма Танка неяк сама сабой прымушае пісаць паэтыцкімі абразамі, заражаючы і крытыка сваей вобразнасьцяй.

Калі глянем на ўсю дасюлешнюю творчасьць Максіма Танка, якую гэтак высока стаўляюць ня толькі свае, але й чужыя, дык атрымліваем уражаньне, што перад нашымі вачыма запраўды адбываецца нейкае містычнае *вызваленьне стыхіі*. Так выбухова-бурліва паўстаюць ягоныя вершы. Як быццам творчая сіла пераліваецца цераз край тае судзіны, у якой яна зьмяшчаецца, а судзіна тут — душа паэты. Багацьце формаў і выяўленчых спосабаў, кіпучыя рытмы, глыбокія мэтафары папросту ашаламляюць чытача. Не дарма ж сам наш паэта неяк сказаў: «У мяне кожны радок — гэта мэтафара». З гэтых радковых мэтафараў-абразоў, каторых у Танка — безьліч, мастак слова ўкладае пышныя букеты, якія адначасна гавораць да нас і сваімі складовымі элемэнтамі, і сваей суцэльнасьцяй. Але — не заўсёды захоўваў паэта тут належную раўнавагу.

Пры чытаньні вершаў Танка само сабой насоўвалася прыраўнаньне да зусім іншае галіны мастацтва: да пластыкі. Характар паэзіі Танка прыпамінае стыль *барока*. Бо ж і там — такая ж пышнасьць і багацьце формаў. I там — кожная дэталь у будоўлі, разьбе, малюнку створана так, як творца мэтафараў ў радкох Танкавых вершаў. I там — у пэўнай меры стыхійнасьць у тварэньні, якая ў вырослым з барока стылю ракако дае папросту оргію формаў і матываў: гэткае тамака мноства іх, гэткія яны віхрыстыя, неспакойныя.

Максім Танк выступіў на паэтыцкай ніве адразу як першарадны мастак, узброены найнавейшымі дасягненьнямі сусьветнае паэтыцкае тэхнікі. Сучасныя формы паэтыцкае творчасьці зусім адпавядалі нутраным настроям Танка і твораным ім абразом. Дзякуючы гэтым формам асабліва ярка выяўлялася стыхійнасьць Танкавае паэзіі. I часамі здавалася, што стыхія можа запанаваць над інтэлектам і сьведамай воляй паэты, можа павясьці яго зусім не туды, куды ён сам хоча.

Аднак і ў гэных формах сусьветнае паэзіі Танк заўсёды аставаўся самым сабою. Ці возьмем ягоны першы томік лірыкі «На этапах», ці цудоўную паэму «Нарач», ці зборнік «Жураўінавы цьвет» — Танкавыя вобразы, Танкавая тэматыка — заўсёды новыя, асаблівыя, да нікога не падобныя. Танк, беларускі дзяцюк, сын зямлі, спароджаны і ўзгадаваны пад саламянай страхой, — Танк, за свае барацьбяныя ідэалы ад юнацкіх гадоў цяганы па этапах, — Танк, пясьняр красы зямлі Беларускай і народнае душы, схаванае ад чужацкага вока пад прапацелай зрэбнай кашуляй і кажухом, — Танк гэты паказаўся адразу як эўрапеец у шырокім разуменьні гэтага слова. I ягоныя творы роўна гавораць да беларускіх сялян, як і да культурных эўрапейцаў чужых нацыяў, роўна чаруюць адных і другіх.

Тое, што стварыў Танк, карыстаючыся сусьветнымі формамі найнавейшых паэтыцкіх кірункаў, дало ўжо яму несьмяротнасьць у беларускай літаратуры. Але Танк дзеля поўнага і ўсебаковага выяўленьня свайго духовага багацьця не здаволіваецца гэтым, а ўсьцяж шукае свайго ўласнага творчага шляху. Ані Ясенін, ані Маякоўскі, ані польскія «авангардысты» ня могуць яго здаволіць. Новы зборнік Танкавых твораў пад назовам «*Пад мачтай*», — які толькі што выйшаў і даў новы бясцэнны ўклад у беларускую паэзію, — паказвае, што Танк запраўды выпрацоўвае для сябе новыя, свае ўласныя, індывідуальныя формы паэтыцкае творчасьці. Цяпер ужо няма ніякага сумліву ў тым, што не стыхія валачэ паэту ў няведамым кірунку, а *Танк сам апанаваў і акілзаў стыхію*. Танк, як мастак, выходзе з юнацкага пэрыяду і дасьпявае. Сваёй бяспрыкладнай творчай здольнасьцяй ён карыстаецца ўсё больш і больш сьведама. Зусім заслужаныя, але з гэткай лёгкасьцяй здабытыя ляўры не закруцілі яму галавы, не забілі ў ім здольнасьці да самакрытыкі. Танк крытычна разглядае кожны свой твор, шукае ў ім заганаў і слабых месцаў, каторыя пры перадруку апублікаваных ужо раз вершаў перапрацоўвае. I гэта — довад дасьпеласьці паэты. Калі ў ранейшых вершах Танка з прычыны перасычаньня іх мэтафарамі і другараднымі абразамі, — як барокавыя будоўлі перасычаны аздобамі, — структура часамі губляла сваю яснасьць, а лініі — выразнасьць (асабліва гэта відаць у дробных лірыках!), дык у найнавейшых сваіх вершах Танк уводзіць тут паважныя зьмены. У новым зборніку Танка ўжо не награмаджэньне паасобных радковых мэтафараў дэцыдуе аб характары суцэльнага вобраза, а самая суцэльнасьць яго прадстаўляе самастойны, ясны і высока паэтыцкі вобраз, у каторым мэтафары адыходзяць на належнае ім месца — на другі плян, як матар'ял падсобны. I гэта мо' найважнейшая зьмена ў паэзіі Танка.

Вось некалькі такіх вершаў Танка ў зборніку «Пад мачтай», каторыя ў сваёй цэласьці прадстаўляюць гэткі выразны, пластычны абраз, ня прыцьмёны дэталямі.

Памёр стары лірнік[1]. Каб песьняў ягоных «не схавалі пад камень», ён аддаў струны зорам, сум — вербам і калінам, радасьць — вазёрам, а рэха — далінам. Крыштальныя ж вочы ягоныя сакол занёс на сонца. I вось перад паэтамі паўстала заданьне — ажывіць гэныя песьні. Дык

*Сягоньня мы ходзім*
*і ходзім па краю, —*
*звон зораў, сум, радасьць*
*і рэха зьбіраем...*

А вось — другі верш таго ж тыпу: «Павязьлі цягнікі...».

Цягнікі павязьлі з вёсак у горад — восень. Апошнюю сымбалізуюць горы дасьпелых антонавак і памідораў, каторымі завалены вітрыны крамаў. З гэтых пладоў зямлі места п'ець сонца! I творца на мястовым бруку тымі, што гэтага сонца з вітрынаў ня могуць дастаць, песьні пра восень, у якіх шумяць міліёны каласоў ды зьвініць сталь косаў.

Яшчэ адзін — мо' найбольш характэрны верш з гэткай будовай — «У Панарах». Панарскі горны ланцуг уначы, праз імглу, прадстаўляецца паэце караванам вярблюдаў, што йдуць зорным шляхам зь няведамых даляў. Паэта кліча іх супыніцца ў межах беларускіх земель Але вось сьвітае. Паднялася імгла. Аказалася, што караван — гэта «ланцуг усхваляваных Панараў»[2]...


Антон Луцкевіч, 1918 г.

Другое, што можна адзначыць у апошнім зборніку вершаў Максіма Танка як новае, гэта тое, што форма вершаў пачынае губляць сваю дасюлешнюю віхрыстасьць і робіцца больш простай і спакойнай, хаця, як і раней, усё ў паэтавай душы кіпіць і бурліць. I характэрна: вобразы, маляваныя Танкам, ня толькі не губляюць ад гэтага сваёй жывасьці ды яркасьці, але, наадварот, робяцца йшчэ больш пластычнымі, бо іх лініі і структура — больш выразныя, лягчэй ухопныя. I здаецца, што мастацкі шлях Танка ўжо даволі выразна вызначаецца: паэта наяўна адыходзе ад барокавага стылю ды кіруецца ўбок несьмяротных формаў мастацтва *клясычнага*.

Неабходна зрабіць тут засьцярогу: аўтар гэтых радкоў усьцяж праводзіць паралель паміж паэтыцкай творчасьцяй Танка і мастацтвам пластычным, галоўным чынам — будаўніцтвам, і мае на думцы клясыцызм апошняга. Дык абмылковы быў бы на падставе гэтых разважаньняў вывад, быццам Танк ідзе ў сваім разьвіцьці назад — ад найнавейшых формаў сучаснасьці да клясыцызму ў паэзіі, скажам, Пушкіна. Не. Танк ідзе не назад, а ўсьцяж наперад, шчасьліва абмінаючы грозны для кожнага мастака тупік, у каторым пачынаецца застой. I найнавейшыя формы сучаснае сусьветнае паэтыцкае творчасьці, каторымі гэтак па-мастацку карыстаецца Танк, атрымліваюць у яго новы *індывідуальны*, а тым самым і *нацыянальны беларускі* воблік: замест навеянага чужацкімі ўплывамі пераросту драбязовых мэтафараў і віхрыстасьці выяўленчых спосабаў, паэта прыхіляецца ўсё больш выразна да шляхотнага супакою — сьведамага і арганізаванага.

Максім Танк у гэтым набліжаецца *да беларускае народнае паэзіі*, каторая, як і ягоная, незвычайна багатая мэтафарамі, але адначасна чаруе нас сваёй простай, яснай структурай і нутраной гармоніяй.

**Каментары**

Артыкул публікуецца паводле: *Беларускі летапіс*. — 1938. — № 2, дзе надрукаваны пад псеўданімам *Атос*.

[1] На ўвазе меўся верш «Лірнік».

[2] Пазней Максім Танк друкаваў гэты радок у іншай рэдакцыі.

# Здрадная свіння



Павел ЛЯХНОВІЧ

Стаіць у Нарвегіі, непадалёк ад мяжы з Расіяй, высокая сопка. Ці то насупраць Печангі, ці то Ліінахамары, а можа, Нікеля. Гэта цяпер не вельмі важна. Важна тое, што на сопцы гэтай вельмі магутны тэлескоп усталяваны, і калі няма дажджу або снегападу, праз гэты тэлескоп уся Кольская затока разам з Мотаўскай — як на далоні. А гэта ж амаль што ўвесь Паўночны флот. Бартавыя нумары караблёў, ды што там бартавыя — баявыя нумары на матроскіх галандках супастаты натаўскія чытаюць. Прынамсі, так асабісты, то бок «унукі» жалезнага Фэліка, земляка нашага, кажуць.

Прынеслі неяк начальніку супастацкаму здымкі. На іх стратэгічны падводны крэйсер з Сайда-губы ў мора выходзіць. Дакладваюць — так і так: на баявую службу выходзіць падводны крэйсер тыпу «Кальмар», праект 667 БДР, шаснаццаць балістычных ракет, камандзір Іваноў... Ну, усе звесткі далажылі начальніку, што з розных выведных крыніц атрымалі. Толькі, кажуць, ёсць тут адна незвычайнасць. Што б гэта магло значыць, не можам расшыфраваць. Збіралі ўсіх адмыслоўцаў, мазгавы штурм рабілі — не, ніякай прыстойнай версіі не выходзіць. Тут, сэр начальнік (бос па-іхняму), вось на чорнай спіне ракетна-ядзернага монстра расійскага нешта белае. Гэта, у чорных бушлатах і аранжавых выратавальных камізэльках — швартоўныя каманды. Гэтыя, на мосціку, у скураных куртках з башлыкамі, група кіравання: камандзір, штурман, вахценны афіцэр. З гэтымі ўсё зразумела. Нават прозвішчы ведаем. А вось на ракетнай палубе... вельмі свінню нагадвае. Можа, нехта ў невядомым гідракасцюме? Тады чаму не вертыкальна, а гарызантальна? Можа, у стане алкагольнага ап'янення? Яны часам злоўжываюць — традыцыя такая нацыянальная — і часам не паспяваюць да выхаду ў мора працверазець... Ці сапраўды свіння? Падобна — так. Але навошта на стратэгічным ракетна-ядзерным караблі — свіння?

Прыгледзеўся бос да здымка, нават лупу ўзяў. Сапраўды — свіння.

— Думаю, — кажа, — гэта нейкая новая зброя расійская. На Чарнаморскім флоце па маіх дадзеных яны баявых дэльфінаў рыхтуюць — смертнікаў, варожыя караблі падрываць. А тут, відаць — баявых свіней... Хоць... Ах, гэта таямнічая руская душа!... А паклічце мне майго асабістага сакрэтнага эксперта!

І выклікалі. Ці то эмігрант з «першай хвалі», ці то збеглы кэгэбульнік. Вельмі сакрэтны.

Паглядзеў эксперт, адразу важны стаў:

— Паслугі мае, — цэдзіць праз губу, — эксклюзіўныя. Ніхто апроч мяне растлумачыць гэты факт не здолее. Таму гэта каштаваць вам будзе... — і лічбу называе такую, што падводніку расійскаму каб столькі хоць бы ў рублях савецкіх атрымаць, трэба гадоў семдзесят з «жалеза» не злазіць. — А экспертнае заключэнне, што я вам даць маю, вельмі сур'ёзнае для забеспячэння бяспекі...

— Ноў проблем, — кажа бос. — Дзеля бяспекі гэта дык зусім грошы невялікія... Ну, і што гэта за аб'ект на стратэгічным аб'екце (пшэпрашам за таўталогію, сэр эксперт)?

— Гэта свіння, сэр бос.

— І я думаю, што свіння, сэр эксперт. Але якую небяспеку нясе гэтая свіння нашай нацыянальнай бяспецы? Мабыць — гэта баявая свіння-смертніца, накшталт баявых дэльфінаў?

— Так, сэр бос, гэта свіння-смертніца. А факт яе знаходжання на борце стратэгічнай падводнай адзінкі сведчыць аб знаходжанні на гэтым борце высокага начальніка, што ў сваю чаргу сведчыць аб незвычайнай баявой службе гэтай адзінкі, можа, нават аб баявой службе, сумешчанай з перадыслакацыяй гэтай адзінкі на іншы акіянскі тэатр... Так што чакайце ў хуткім часе гэты крэйсер на Ціхім акіяне...

Як у ваду глядзеў! Камандуючы флатыліяй падводных лодак меў на кожным пагоне па дзве зоркі-«павукі» і вельмі хацеў яшчэ адну — на грудзі. Камандуючы, віцэ-адмірал, не быў яшчэ Героем Савецкага Саюза. А тут выпадала неблагая магчымасць: сябры з Галоўнага штаба ВМФ шапнулі, што калі ўсё пройдзе «ціп-топ», старшы на пераходзе атрымае зорку. Тую самую, залатую. Дык не аддаваць жа яе камандзіру лодкі! Хоць і рызыкоўна, але такога выпадку больш можа не здарыцца. Гады́, ведаеце...

...Кожнаму, хто цікавіцца, вядома: самыя стратэгічныя ў свеце падводныя лодкі будуюць карабелы з Северадзвінску, што на Белым моры. І што з розных прычынаў гэтыя атамныя веліканы з ядзернай зброяй служаць толькі на Паўночным флоце і на Ціхаакіянскім. Звычайна караблі з Белага мора пераганялі на Камчатку амаль кругасветным шляхам — вакол Эўропы-Афрыкі-Азіі. Памазгавалі ў Маскве людзі з дзяржаўнымі глуздамі і вырашылі паспрабаваць пераганяць іх кароткім шляхам: паўночным марскім, уздоўж эсэсэсэраўскага пабярэжжа. Здагадаліся — так больш выгадна. І выдзелілі на гэтую справу першаму камандзіру, які лодку з Поўначы на Ціхі акіян перагоніць, залатую зорку. Ну, і яшчэ там ордэнаў колькі, медалёў — тым, на каго ў выпадку паспяховага пераходу зампаліт, прадстаўнік кіруючай партыі ў флоцкім целе, пакажа.

Дык што гэта будзе? Камандзір — Герой, а Камандуючы — не?

Таму і прапанаваў сябе адмірал з двума «павукамі» на пагонах у старшыя на пераходзе. У Карабельным Статуце Ваенна-марскога флота СССР абавязкі распісаны ад камандзіра злучэння і ніжэй, флатылія ж падводных лодак з'яўляецца аб'яднаннем. Якія абавязкі ў Камандуючага аб'яднаннем? А-а... Вось! Няма іх у Статуце. Апрача таго, артыкул 132 кажа так: «Прысутнасць на борце карабля старшых начальнікаў не здымае з камандзіра карабля адказнасці за карабель і выкананне сваіх абавязкаў». Так што калі пераход пройдзе ўдала — Камандуючы малойца і Герой, калі не — камандзір падлодкі чмо і праснак каровін. Стратэгія, яцішкін бабай!..



Фота tvk6.ru

...Пяць гадзінаў да выхаду. «Увага! На карабель прыбыў Камандуючы флатыліяй і афіцэры штаба!» Праз дзесяць хвілінаў: «Камандзірам падраздзяленняў сабрацца ў кают-кампаніі на даклад!». «Бычкі» — так для сціпласці завуць падводнікі камандзіраў баявых частак — ціха мацюкаючыся, пасунуліся ў пяты «біс». Кают-кампанія забіта штабнымі. Пазаймалі ўсе крэслы. Стоўпіліся «бычкі» — хто дзе — у праходах між сталамі.

— Таварышы афіцэры!!! — Гэта каманда такая. Матросам гарлаюць «Смірна!», а афіцэрам — вось так.

Усталі, хто сядзеў. Камандуючы зайшоў. Сеў у камандзірскае крэсла. Морда чырвоная, як бурак. У яго заўсёды чырвоная. Камандзір збоку прытуліўся.

— Таварышы афіцэры. — Таксама каманда. Толькі больш лагодная. Матросам кажуць «Вольна!».

Селі.

— Камандзір БЧ-1, ваш даклад.

— Камандзір БЧ-1, капітан трэцяга рангу Смыкаў. У штурманскай баявой частцы асабовы склад на борце цалкам, навігацыйны комплекс запушчаны, курсаўказальнікі ў мерыдыяне, ЗІП укамплектаваны... Баявая частка да паходу гатовая.

— Камандзір БЧ-2...

— Командыр БЧ-2, капытан... — з моцным украінскім акцэнтам, — другого рангу Марцын. У ракэтної боэвої часты особовы склад... готові.

— Камандзір БЧ-3...

— ...

— Памочнік камандзіра!

— Памочнік камандзіра капітан трэцяга рангу Рулькевіч. Асабовы склад службы забеспячэння на борце цалкам...

— Кок добры?

— На «гражданцы» быў шэф-поварам у рэстаране, таварыш Камандуючы (па статуце звяртацца трэба па званні: «таварыш віцэ-адмірал», але ўсе ведаюць, што ён вельмі любіць так — «таварыш Камандуючы». Амаль «таварыш Галоўнакамандуючы». Нават амаль «Вярхоўны Галоўнакамандуючы»!...)

— Добра... Далей...

— Харчовыя запасы загружаны...

— Свініну загрузіў?

— Свініны бербаза не дала, толькі ялавічына і кенгураціна, таварыш Камандуючы.

— Ды ты што!? Як жа я без свініны? Я ж без свініны... — Павярнуўся да камандзіра бербазы, «чырвонапёрага» палкоўніка (форма чорная, пагоны з чырвонымі «прасветамі»). — Ты што, Іван Нікіфаравіч, я ж табе за гэта анус парву, я ж без свініны... І не рабіце тут твар дамінантнага бабуіна, палкоўнік!

— Ёсць, таварыш Камандуючы! — (Аніякіх лішніх словаў, бо сапраўды парве.) І шэптам да памочніка: — Дай паперку! Паперку дай! Запіску напішу — возьмеш на падсобнай гаспадарцы!

Чатыры гадзіны да выхаду.

«Так, туша заважыць хай сто кілаграмаў, — "маракаваў" Рулькевіч. — Не, можа нават сто пяцьдзясят. Будзем сыходзіць з горшага. Да падсобнай гаспадаркі два з нечым кіламетры. Колькі трэба матросаў, каб перанесці свіную тушу ў сто-сто пяцьдзясят кілаграмаў за два кіламетры? Задачка, туды-т яе ў цёцціну пячорку! Хай па трыццаць кіль на рыла... Не, хілякі гэтыя па трыццаць доўга несці будуць. Па дваццаць... Краіне патрэбныя героі, а прысылаюць дыстрофікаў... Гэта значыць: сто пяцьдзясят кіль на дваццаць — трэба сем з паловай матросаў... Цьфу ты! Восем матросаў. А як несці? Вяроўкамі абвяжам!»

— Боцмана ў цэнтральны!

— Боцман, тэрміновa метраў дваццаць-трыццаць якога ліня. Нятоўстага. Як няма? Што значыць — няма? Ты боцман ці дзе? Ну, блін, выйдзем у мора, я табе адмасірую праста́ту! Давай пакуль два кідальных канцы. Не, тры! А-а! Чатыры давай!

Шмат анекдотаў складзена флоцкімі стваральнікамі фальклёру пра берагавую базу ўвогуле і пра падсобную гаспадарку ў прыватнасці. Падсобная гаспадарка — гэта папросту свінарнік, нябштатнае ўтварэнне палітаддзельскай думкі і бербазаўскай дзеі. Каб аб'едкі з берагавога камбуза дарэмна не прападалі. Працаваць туды пасылаюць зазвычай сыноў Цэнтральнай Азіі, паслядоўнікаў вучэння Прарока Магамеда, якія кепска ведаюць рускую мову. Хоць якая ад іх карысць. І заадно — барацьба з рэлігійным дурманам.

...Матрос у свінарніку пакруціў у руках запіску, выпісаную камандзірам бербазы, і падвёў Рулькевіча да загародкі, дзе рохкаў вялізны — гара — парсюк. — «Забірай, начальнік».

— Ты што! — ажно захлынуўся Рулькевіч. — Што я з ім рабіць буду! Ты мне тушу давай!

— Бяры туша, начальнік!

— Ангідрыт-тваю міндалявокую маму... Мяса! Мяса давай! Свініну!

— Бяры свініна, начальнік. Зробіш чык-чык, мяса будзе.

— Ты! Ты сам зрабі «чык-чык»!

— Не, начальнік! Суюнбай карміць — так, чык-чык — не!..

...Гадзіна да выхаду. Прыбралі канцы электрахарчавання з берага. Прыбралі дадатковыя швартовыя. Шматтысячатонны падводны волат ля пірса на двух нітках — насавым і кармавым швартовых. Камандзір на мосціку, нервуецца:

— Ну дзе гэты ёлуп?! Паслаў, даруй Госпадзе, Ты мне памочнічка! І матросаў звёў! Колькі з ім пайшло? Старпом! Колькі чалавек з памочнікам пайшло? А хто павінен ведаць? Тэ-экс. А што гэта там? Сігнальшчык! Бінокль! О! Ідуць! А гэта што? Ну, вагіна кабылячая! Ён жывую свінню сюды валачэ!

Прывязаўшы да ног кідальныя канцы, матросы пераставулялі парсюку ногі. Парсюк упіраўся. Да мосціка даносіўся яго́ны асіплы віск. А вагі ў ім было, відаць, за дзвесце кэгэ.

— Мост — цэнтральнаму, — ажыў на мосціку «Каштан».

— Ёсць мосцік!

— Аператыўны перадаў: Камандуючы да нас выехаў.

— На пірс упацелыя матросы зацягвалі парсюка. Той растапыраў ногі і адхіляўся ўсім тулавам назад. Рулькевіч піхаў яго ў круглыя кумпякі.

— Да кармы цягніце, ёхарны клітар! — зароў у «мацюгальнік» старпом.

— Камандуючы на пад'ездзе! На ракетную палубу! Перакіньце пару латкоў ад электрахарчавання! Па латках!

...«Волга» Камандуючага ўз'ехала на пірс. На ракетнай палубе шчыльным шыхтом стаяла кармавая швартоўная каманда. За спінамі швартоўшчыкаў, прысеўшы, Рулькевіч чухаў парсюку за вухам: «Дзюдзя. Дзюдзя. Ну дзюдзя, толькі не высоўвайся! Хай флатаводзец у "бітон" залезе».

Абвіты канцамі, парсюк спрабаў выскачыць з-за спінаў на адміральскія вочы не рабіў. Стаяў сабе, раскірачаны.

— Смірна! Таварыш Камандуючы...

— Вольна! Аддаць кармавы!

Швартоўшчыкі рассыпаліся, пабеглі ў карму.

— Аддаць насавы! Тры гудкі тыфонам! Правая — назад малы! Руль — лева дзесяць!

Паехалі. На чорным целе, як яечка на патэльні, свяцілася цела белае. Здраднае. От, які ён цяжкі — рэжым сакрэтнасці!

# Абрысы настрою на моры Міжземным
## (Трыптых)


Альжбета КЕДА

### 1
### Абрысы настрою — пасолька

*Асоль у бабуліным веку*
*збірала у моры пасольку,*
*якую яно выспявала,*
*якую яно шліфавала.*
*Пасее на градцы ўспамінаў пасольку,*
*каб выраслі ўсходы*
*пра самае цёплае мора,*
*пра самае чыстае мора,*
*пра ўсмешку гарэзную ўнука,*
*пра ўсмешку пяшчотную доні,*
*пра сына суворы пагляд.*
*Дзе светлай шчасліваю стужкай*
*між чорных няшчасцяў пралегла*
*сустрэча з яе дарагімі.*
*Пасее пасольку на градцы,*
*і будуць шчаслівыя згадкі*
*у слотную познюю восень,*
*у сцюжную доўгую зімку.*
*Пасольку бабуля садзіла,*
*пасольку матуля садзіла,*
*пасольку яна выспявае.*
*А доня жыве на асфальце.*
*Парвалася нітка Палеяў...*

### 2
### Абрысы настрою — палоска

*Зламаная лінія лёсу,*
*што дзесьці ў высокіх нябёсах*
*даўно напісана не намі.*
*Абрысы настрою — палоска,*
*бясконцасць прамое*
*ці вектар з пачаткам —*
*магутны разбег,*
*ці толькі адрэзак,*
*што рэзка спыняе*
*свой гон.*
*Ці накрыж сышліся палоскі,*
*бы стрэлы.*
*Сягоння мы страцілі Веру.*
*І хор адгучаў беларускі*
*ў знямелай ад болю Гародні.*

### 3
### Абрысы настрою — як дзве палавіны

*Няроўныя долі,*
*трымаюцца разам,*
*зрадніўшыся болем,*
*любоўю,*
*каханнем.*
*Ці побач, па звычцы,*
*бо сілаў не маюць*
*усё паламаць,*
*каб новае скласці.*

*На моры Міжземным*
*Асоль у бабуліным веку*
*збірала абрысы,*
*шукала адценні*
*ўсіх колераў,*
*водараў*
*і летуценняў...*

# Дарога дамоў


Раман АБРАМЧУК

***

*а тым, хто застаўся ў падвале*
*савецкага раўса*
*куды не трапляе ані малітва*
*Багародзіцы,*
*ані сігнал сотавага*
*на трэція суткі прыходзіць фея*
*у дыядэме з гумовых дручкоў —*
*раздае пайку*
*тэлефануе блізкім*
*паведамляе пра месцазнаходжанне*
*змахвае слязу і абяцае*
*што дадуць*
*не болей*
*15-ці*

***

*калі выязджаў —*
*схаваў спеў свой*
*на дно чамадана*
*распіхаў па кішэнях*
*усе замежныя мовы,*
*што ведаў*
*бэйджы і ксівы парассоўваў*
*па шкарпэтках*
*улюбёныя мясціны*
*наўмысна пазабываў*
*нумары й перапіскі —*
*выдаліў*
*усмешку — прыкрыў*
*паролі — з'еў*
*імёны свае — з твару сцёр*

*а памежніца глянула пашпарт*
*паставіла штамп аб выездзе*
*не спытала*
*нічога*

### Марыупаль

*Апошнім у Марыупаль*
*увойдзе не танк і не полк*
*а асляня*
*з Вершнікам на раменах*
*Анёлы-беспілотнікі*
*пападаюць ніцма*
*Шастакрылыя байрактары*
*замітусяцца ў паветры*
*Яблыневыя галінкі ў цвеце,*
*кінутыя наспех насілкі,*
*парваныя шынялі*
*высцеляць шлях*
*Вершнік*
*праедзе па руінах*
*цэнтральных вуліц*
*з дваровых магіл данясецца*
*«Асанна»*

*Праз некалькі дзён*
*згодна з вядомым сюжэтам*
*інсцэнаваным эсбэу*
*замоўленым эфэсбэ*
*праплочаным дзярждэпам*
*снайпер з вежы*
*зачышчанага ад баевікоў завода*
*імя Леніна*
*грохне*
*Вершніка*
*і*
*асляня*

*Расследванне не пакажа нічога*
*Медыі з абодвух бакоў*
*злепяць аднолькава*
*праўдападобныя версіі:*
*не маркіраваў*
*транспартны сродак*
*сцяжком адпаведных колераў*
*парушыў правілы*
*гуманітарнага калідора*
*прыкрываўся*
*жылымі кварталамі*
*Яму і самому было гэта выгадна*
*Але*
*апошнім у Марыупаль*
*увойдзе не танк*
*і не полк*

***

*Дагэтуль зашпільваеш ровар на*
*дзевяць / нуль восем / дваццаць*
*Прышпілены да радзімы так*
*што й на Марс не выратуе эміграцыя*
*Дата прыкручана шрубамі*
*да мозга коркі*
*Мы нібыта не прайгравалі*
*але чаму ў нашых храмах*
*імшу правяць оркі*
*Напішу ліст Сцяпану і Максу,*
*перадам праз ганцоў...*

*Адшпілены ровар...*
*Стажарамі ззяе*
*дарога дамоў*

# Касá дасюль звініць…


Ігар СІДАРУК

***

*Вантробы — на снезе.*
*Не птушак — мае.*
*Дзень антытэзай*
*З ноччу пяе*

*Рэквіем змрочна*
*Соснамі ўвысь.*
*Хто сцежку сурочыў?*
*Дзяржысь!*

*Там, за палянай...*
*Далезці, дапяць...*
*Калі выць не ў стане —*
*Не спаць!*

*Пячонку ды кілы*
*Ў кучу зграбу.*
*Астатняя сіла —*
*У збітым гарбу.*

*Нікуды не дзецца...*
*На камні — татэм.*
*Каб крышку сагрэцца —*
*Я ўласнае сэрца*
*Ем.*

***

*Ты бачыш мяне? Не?*
*Вышыўка крыжам — вочы*
*На раздзертым, як крык, палатне*
*Самазабойнай ночы.*

*Што згрызенай косткай меч*
*Ля горла майго трымае.*
*Дрыготка аголеных плеч —*
*Як узор вышыванкі па краі...*

***

*Недзе побач Парыж.*
*І Дубай, і Ляндоны.*
*Толькі зноўку ты сніш*
*Пахкі поплаў зялёны.*

*Дзе рамонкі і хвошч,*
*Дзе мядункі і браткі.*
*Дзе гарэзаю дождж —*
*Бы дзіцячыя пяткі*

*Па пяску, па траве,*
*Па блакітных валошках...*
*Дзе з далонькі дзяўбе*
*Ціш праменьчыкаў крошкі*

*Месяцовых... І зноў*
*Ты цярпліва чакаеш*
*Зорак першых улоў*
*Па-над сном, па-над краем...*

*Дзе далёкі Парыж.*
*І Дубай, і Ляндоны.*
*І дзе сёння ты сніш*
*Родны поплаў зялёны.*

### Аскепкі

*Сёння душа — аскепкі.*
*На кожным — тваё імя.*
*Усаджаны ў горла крэпка*
*Каменнае ваты камяк.*

*Пáдаю скрозь люстэркі.*
*Лічыльнікі ўсе стаяць.*
*Думак зламаных стрэлкі*
*Пазлам адным не сабраць.*

*Хоць, можа, яшчэ магчыма...*
*На ўскрайку, на стыку... Аднак —*
*Прамень, што вужакай міма, —*
*Бы горкай усмешкі знак.*

***

*Мне не дагнаць тралейбус той,*
*Што ноччу шэра-залатой*
*З'язджае далей, далей, далей*
*Скрозь траўня звонкія каралі!..*

*Мне не зірнуць ужо ў вакно,*
*Дзе скрозь язмін было відно,*
*Як цалавалі ў вусны проста*
*Нас бела-пенныя пялёсткі.*

*Мне болей не зайсці на двор,*
*Што росны ад шматлікіх зор,*
*З дажджом апалых, нібы квет,*
*І ў кожнай — ты; і твой Сусвет.*

*І тое месца не кранаць,*
*Дзе сярод траў дасюль пячаць*
*Гарэзных рук і ножак босых;*
*У захад там адно пракосы.*

*Якіх ужо не паўтарыць...*
*Хаця каса дасюль звініць,*
*Калі па травах з лёгкім жалем*
*Зыходзіш далей, далей, далей.*

***

*Што ж ты, храм, не пускаеш мяне?*
*Бы палын у агні — рыса.*
*Як маланка не закране —*
*Дык гадзюкаю чорнай блісне.*

*Што жы ты, ноч, не даеш нематы?*
*Не крумкач — ды крычу хрыпам.*
*Ваўчаняты дзяруць раты*
*На ваўчыху, што мёртвай на ліпе*

*Не варушыцца нават... І тлушч —*
*Ані кропляй болей на сонцы.*
*І ты сам на тым сонцы мусіш*
*Вышчарацца, як звер, бясконца.*

*І збіраць, бы расу ў далонь,*
*Разам з цемрай сухой іголку.*
*Каб на пні, бы вампір на троне,*
*Не напіцца, не памаліцца.*

*І ад промняў — адзіны дым*
*Пад сасонкаю той застанецца.*
*І ў разбураным храме тым —*
*Мне даўно — не знаходзіцца месца.*

# Сэрца дрыгаценні



Андрэй БУРЭЦ

*Ну вось чаму стрэлы Амура, патрапіўшы ў нашае сэрца, заўсёды ператвараюцца ў стрэмкі?!*

***З афарызмаў Пацяробкіна***

…Ён заставаўся самотнікам на бязлюдным востраве, яна пакідала яго, адплываючы на караблі. Зляканы перспектывамі адзіноты, ён падскочыў, замахаў рукамі, спрабуючы прывабіць увагу. «Гэй! Паглядзі на мяне, паглядзі, які я разумны, таленавіты, які я… жартаўлівы! Ты яшчэ пашкадуеш, што кінула мяне, чуеш? Пашкадуеш!!!» У адчаі ён затупаў нагамі так моцна, што, здаецца, зямля затрэслася пад ім. Карабель з ёй — безуважна да яго крыкаў — павольна адплываў усё далей і далей. Беззваротна. Ён сеў на зямлю, сціснуў твар у далоні і заплакаў…

— Што ў вас? — спытала медсястра ў акенцы рэгістратуры.

— Што?.. — я ачуняў ад мроі, якая апанавала мяне падчас чакання ў чарзе, і цяпер няўцямна глядзеў на стомленую і абыякавую жанчыну ў белым халаце. А сапраўды, што ў мяне? Як гэта можна патлумачыць? Я разгублена маўчаў.

— Ну давайце хутчэй, людзі чакаюць, — раздражнёна прыспешыла яна.

— Не ведаю нават, да каго звярнуцца, — замямліў я. — Разумееце, у мяне непрыемнасці… з сэрцам.

— Ну тады вам да кардыёлага трэба, — чмыхнула яна носам і працягнула мне кавалачак паперы.

Я адшукаў патрэбны кабінет, спытаў, хто апошні ў чарзе, усеўся ў крэсла чакаць. Ну й што я скажу гэтаму кардыёлагу? Непрыемнасці з сэрцам… ха-ха-ха. Смешна. Па праўдзе, я згубіў над ім кантроль. Я закахаўся. Ну і цудоўна, скажаце вы, радыя за цябе. На якую ж халеру ты прыпёрся ў бальніцу? Спачатку, і сапраўды, усё было цудоўна. Так цудоўна, што я, згубіўшы ўсялякую асцярогу, даў сэрцу згоду: кахай! Але прайшоў пэўны час, і па яе вачах, па дотыках, у якіх больш не было пяшчоты, я зразумеў, што яна не кахае мяне. Тады я ў поўнай меры адчуў дзеянне гэтага дзіўнага закона: калі ў аднаго з закаханых знікае каханне, то другі па законах захавання пачынае кахаць удвая мацней. Ну і халера на яе, падумаў я спачатку і загадаў свайму сэрцу: не кахай! А яно, гэты ўпарты кавалак мяса, працягвала правіць сваё і з кожным тахканнем выкідвала і гнала ў кроў атрутнае рэчыва замілаванасці да іншага. Мой мозг тысячу разоў прыводзіў тысячы аргументаў, што не трэба мне яе кахаць, што няма там каго кахаць. Як толькі не лаяў я яе, я падвяргаў яе найаб'ектыўнейшаму аналізу, бачыў яе падступную сутнасць наскрозь. І ўсё адно працягваў кахаць гэтую пагарджаную істоту. Як такое магчыма?

Я і не ведаў, што адчай можа драпежнікам так бязлітасна драць душу на кавалкі. Я глядзеў на свет, і нічога ў ім не мела значэння; вясновая зялёная трава згубіла сваю яскравасць, паблякла сонца, усе блізкія раней людзі здаваліся чужымі і нязначнымі. Мне хацелася бегчы ад самога сябе, ад сваіх нуды і адчаю. Але куды? Нават у сне мучыла яна мяне. Надоечы мне снілася, што мы ляжым з ёй у адным ложку. Я павярнуўся да яе спінай, ведаючы, што, варта мне дакрануцца да яе, пабудаваныя мною з такой цяжкасцю бар'еры нелюбові імгненна абрынуцца. Яна абняла мяне і дакранулася вуснамі да пляча. Я не мог болей стрымліваць сябе і, павярнуўшыся, абняў і пачаў шукаць яе вусны, прыпаў да іх у вострым шчымлівым шчасці. Я ведаў, што гэтае хвіліннае шчасце будзе каштаваць мне гадзінаў болю і пакут. Галоўнае — не расплюшчваць вачэй, думаў я, бо калі пагляджу ў ейныя вочы, то прападу ў іх навекі. І ўсё ж расплюшчыў, і дзіўным чынам, як гэта часта бывае ў снах, убачыў сябе збоку. Побач са мною нікога не было, я круціўся на ложку.

Штоpанку я прачынаўся з агідным адчуваннем неабходнасці пражыць яшчэ адзін непатрэбны беспрытульны дзень, у якім трэба было прадзірацца праз хвіліны і гадзіны бязрадасных роздумаў, перажоўвання збрыдлых думак і перажывання прыкрых пачуццяў.

Колькі разоў смяяўся я з кахання, колькі разоў кпіў з нешчаслівых каханкаў. Я — той, хто заўсёды пасміхаўся з сумнавокіх, якія нудзіліся пакутамі кахання. Недарэкі, хіба вам больш няма чым заняцца?! І вось пакаранне! Я сам аказаўся ў гэтай пастцы.

Я глядзеў уважліва ў самога сябе і разумеў, што ў маім каханні мала ўжо заставалася кахання, а болей абражанага самалюбства і гонару, распаленых адмовай крыўды і роспачы, скнарлівага нежадання адпускаць чалавека, які быў некалі так блізкі.

Я ўсё разумеў, а нічога не мог зрабіць.

Побач са мною прысеў змізарнелы чалавечак. Вось і ён! Яшчэ не здох, аказваецца! Я памятаю, як ён упершыню з'явіўся на маім парозе адразу пасля нашага расстання з ёй. Тады ён яшчэ быў пухлявы, чырвоненькі, як парсючок.

— Добры дзень, майстар па рамонце адносін, — прэзентаваў ён сябе і без запрашэння праціснуўся ў дзверы.

О! Каб ведаў я тады, што гэта за тыпус, як дасца ён мне ў знакі, сунуў бы яму кулаком у ружовы лыч, аблаяў, скінуў з лесвіцы і наказаў бы ніколі больш не паказвацца на маім парозе.

— Бачу, вы ў роспачы, — загаварыў ён, бадзёра ўсміхаючыся. — Не трэба адчайвацца, хачу запэўніць вас: усё яшчэ можна паправіць.

— Праўда? — з надзеяй спытаў я.

— Безумоўна! — усеўся ён за стол і пачаў выцягваць са свайго пульхнага чамаданчыка розныя паперкі. — Вось хаця б успомніце, як яна сказала гэта загадкавае: «Калі б…». Што яна мела на ўвазе? А вось тое самае. Сумняецца дзяўчына, вагаецца. А значыць, шанцы ў нас ёсць. А паглядзіце сюды, — працягнуў ён мне фатаграфію. — Знята неўзабаве пасля вашага расстання. Вы думаеце, яна была б тут такая сумная, калі б нічога да вас не адчувала?

Памятаецца, я прыслухаўся да яго і нават быў наважыўся набраць ейны нумар. Але, пачуўшы абыякавае «прывітанне», адразу зразумеў, што ўсё, што нагаварыў мне гэны прайдзісвет, было лухтою лухцяною. Але пазбавіцца ад яго не было ніякай магчымасці, аказалася, надзея, што цябе ўсё яшчэ кахаюць, ці не самая трывалая з усіх надзеяў. Вось і цяпер, усеўшыся побач са мною, майстар звыкла, але без ранейшай нахабнасці і ўпэўненасці, нарыхтаваўся мазоліць мне вушы абрыдлымі ўжо да ванітаў меркаваннямі. Вытрымаць гэтага я не мог, таму падскочыў з крэсла і без чаргі заскочыў у кабінет, зачыніўшы дзверы перад самым носам назолы, які памкнуўся быў за мною. Тут я даў нясмелага дабрыдня пажылому мужчыне, які сустрэў мяне поглядам жывых вясёлых вачэй.

— Заходзь, казак, заходзь! Ну што, ты такі малады, а ўжо сэрца непакоіць?

Я, блытаючыся, адчуваючы няёмкасць, пачаў тлумачыць яму сваю бяду.

— Ну, казак, — перапыніў ён мой аповед, — калі б кожны, у каго з гэтай прычыны баліць сэрца, прыходзіў да мяне, тут ведаеш, якая б чарга стаяла?

— Доктар, — жаласліва адказаў я. — Гэта ж вельмі моцна баліць, што аж няможна трываць, жыць не хочацца, свет нямілы стаў. Калі так далей пойдзе, то хай яно лепей спыніцца — сэрца тое.

— Ну а чым я магу табе дапамагчы? — у яго вясёлых вачах з'явілася троху спачування. — Тваё выразаць і чужое ўставіць? Прабач, шаноўны, але медыцына пакуль такім не займаецца. — І дадаў у адказ на маё нямое пакутлівае пытанне: — Ты мо да псіхолага лепей звярніся, гэтыя знаўцы загадак чалавечае душы табе параяць што.

Спроба не хвароба, хай ужо ў вар'ятню кладуць; я быў гатовы на ўсё, абы пазбыцца гэтага невыноснага гнёту. Псіхолаг — прыемная з выгляду жанчына сярэдніх гадоў, пакуль я расказваў ёй сваю гісторыю, глядзела на мяне са шчырым спачуваннем.

— Не саромцеся, малады чалавек, — супакоіла яна мяне, адчуўшы, маю ніякаватасць і разгубленасць. — Каханне — гэта і сапраўды ў нейкім сэнсе псіхічная хвароба, ці назавём яго лепей расстройствам. Як лячыцца ад няўдалага кахання? Найперш трэба абмежаваць усе сувязі з тым чалавекам, якога вы кахалі. Ніякіх сустрэч, ніякіх тэлефанаванняў, забудзьце пра яе. Схавайце ўсе фотаздымкі, усе рэчы, якія могуць нагадаць. Каханне — гэта амаль наркатычная залежнасць ад іншага чалавека як на фізіялагічным узроўні, так і на псіхалагічным. У каханні многа самаўнушэння. Мы самі на падсвядомым узроўні пераконваем сябе, што не можам жыць без пэўнага чалавека. Ведаеце, малады чалавек, сучасныя даследчыкі сцвярджаюць, што вера ў каханне ў жыцці людзей ніяк не меншая, а можа, у цяперашнія часы, мацнейшая за веру ў Бога. Нават самы закаранелы цынік і атэіст у глыбіні душы верыць у сваю здольнасць кахаць. Кожны верыць, што яго каханне — наймацнейшае, самае вернае. І закахаўшыся, ён проста не можа імгненна раскахаць, бо гэта будзе для яго прызнаннем нявартаснасці свайго кахання. Не думайце, што ваша каханне выключнае. Не рабіце са свайго кахання ідала. Мільёны людзей кахалі да вас, пакутвалі не меней за вас і заставаліся жывыя. Гэта не смяротная хвароба, яна пройдзе. І паверце, праз некаторы час вы будзеце ўзгадваць пра свае пакуты з усмешкай. А пакуль абавязкова займіцеся якой-небудзь дзейнасцю, якая магла б захапіць вас. І ўвогуле, азірніцеся: вакол вас сотні прыгожых дзяўчат і сотні магчымасцяў для новага кахання, якое на гэты раз можа аказацца шчаслівым.

«Не, дзякуй, — падумаў я сам сабе. — Мне хапіла аднаго.»

Так, я разумеў усё, што казала гэтая душэўная ветлівая жанчына. Хіба і сам я не думаў пра гэта? Але разуменне сутнасці хваробы, на жаль, не вылечвала ад яе. На развітанне доктарка напісала мне на аркушыку нейкія вітаміны для павышэння тонусу.

Нарэшце, бачачы мой гаротны стан, адзін мой добры сябар параіў наведаць бабку-шаптуху. Сярод яе паслуг, як ён чуў, было і зняцце любоўных чараў. Канешне, вам падасца смешным, што я, адукаваны чалавек, мог паспадзявацца на дапамогу нейкіх сарадаўніх забабонаў. Але калі навука і розум мне нічым не дапамаглі, а з кожным днём я ўсё больш і больш вар'яцеў, абыякавеў да навакольнага жыцця… Таму аднаго ранку старэнькі з'езджаны аўтобусік павёз мяне ў пошуках жаданага ратунку. Вёска аказалася настолькі забытая людзьмі і светам, што аўтобус да яе нават і не даехаў, і мне давялося ісці пехам кіламетраў дзесяць, дзе па грунтовых дарогах, дзе па сцежках.

На шчасце, якраз быў пагодны травеньскі дзянёк з тых, калі сонца пячэ не менш, чым улетку. Так што вандроўка, можна сказаць, была прыемная. Калі не ўлічваць той факт, што ў мяне быў такі стан, што хоць пасыпся на мяне дождж з жабаў і змей, я гэта не надта б заўважыў. Занураны ў свае гаротныя думкі, я нарэшце ўбачыў наперадзе шыльдачку з надпісам «Кажаны». Вёсачка была не багатая на хаты, палова з іх стаялі пустыя, падворкі густа параслі травою. Сцежка прывяла мяне да невялічкай, пахіленай на адзін бок хаткі, на гародчыку віднеліся пазнакі чалавечай дзейнасці, на палянцы паслася козачка, якая пры маім набліжэнні трывожна мэкнула, узбрыкнула заднімі ножкамі і ўцякла. Я пагрукаў у дзверы, потым яшчэ і яшчэ, з кожным разам мацней. Ніякага адказу. «Мо не чуе бабуля, глухаватая?» — падумаў я і зайшоў у хатку. У сенцах прыемна пахла зёлкамі, якія пасмамі былі развешаны па сценах. Я з асалодай, на поўныя грудзі ўдыхнуў водар, падобны на пах свежага духмянага сена.

— Дабрыдзень вам, — пачуў я ціхі голас за спінай, павярнуўся і ўбачыў невысокую, ростам з дзяўчыну-падлетка, бабулю з букетам палявых кветак у руках.

— Прабачце, — мне стала сорамна за сваё бесцырымоннае ўварванне. — Я думаў, у хаце нехта ёсць.

Але бабуля зусім не злавала, аніколькі не збаялася маладога незнаёмага чалавека, нібыта з першага погляду адчуўшы, што я не маю ніякіх злых намераў, і лагодна запрасіла мяне зайсці ў хату.

Унутры было прыбрана, чыста падмецена, і зноў жа ўсё было ўвешана зёлкамі. Бабуля спачатку напаіла мяне вадою, потым усадзіла за стол, на якім хутка з'явіліся вараныя бульбіны і кубак з малаком. Ці то на мой апетыт так падзейнічаў прыемны пах зёлак, ці доўгая дарога, але еў я гэту простую ежу з вялікім смакам. Паціху завіхаючыся па хаце, бабуля распытвала пра мяне, прычыны з'яўлення ў Кажанах. Я неяк і забыўся спытаць, ці тая яна знахарка, якую я шукаю, а проста і шчыра пачаў расказваць ёй сваю гісторыю. Цікава, колькі ёй гадоў. Можа, восемдзесят? Уся сухенькая, здаецца, скура толькі абцягвала косці, яна заставалася надзіва рухавай. Яе выцвілыя, як старыя фотаздымкі на сценах, вочы глядзелі з дабрынёй і лагодай.

— Так, унучак, так. Дзіўная гэтая любоў. Колькі пражыла я, а ўсё дзіўлюся, што яна робіць з чалавекам. І радасць прыносіць, і гора. Славяць яе людзі і клянуць, прагнуць і ўцякаюць ад яе. Вось ты пра сваё каханне расказаў, а я табе пра іншае. Даўно, як яшчэ ў дзеўках я была, сябравала з суседкай. Ганка дзяўчына была спрытная, але бедная, бацька ў іх памёр, дзяцей многа малых засталося. Злюбілася яна з Базыльком. На ўсіх вечарынах разам, праводзіў яе па вечарах, казаў, што ажэніцца з ёй. А матка ягоная іншую сабе нявестку нагледзела, багацейшую. Прыйшоў Базылёк увечары да Ганкі, плача, кажа, кахаю цябе, але супраць матчынай волі пайсці не магу. Так і рассталіся яны. Ажаніўся ён з Мартай. А ў той — якая ж паскудная натура! Як вяселле згулялі, стала з сяброўкамі ў Ганкі пад вакном і расказвае, як яны з Базыльком мілуюцца. Не дзіва, што як толькі пасватаўся да Ганкі хлопец з іншай вёскі, яна, не раздумваючы, згадзілася. Галоўнае, казала, што тая вёска далёкая, падалей адсюль хачу з'ехаць. Многа гадоў мінула, а як сустрэне мяне Ганна, то абавязкова спытае, як Базыль пажывае, ці ладзіць ён з Мартай. А ты паспрабуй зладзь з той Мартай, мала што характар злы, дык яшчэ й нялюбая. А вось Ганне добры чалавек трапіў… Памёр Базылёк, пахавалі яго. Неяк адведвала нас Ганна, папрасіла мяне, каб адвяла на ягоную магілку. Доўга стаяла там, быццам размаўляла з ім. Бачыш, унучак, як бывае… — Бабуля паглядзела на мяне сваімі разумнымі вачыма. — На ўсё доўгае жыццё любоў рану пакінула, ні росстань яе не загаіла, ні час. Чым жа табе неадукаваная бабка можа дапамагчы?

Заканчэнне на стар. 7 »

# Сэрца дрыгаценні

**« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 6**


Фота dreamstime.com

Я разгублена маўчаў. Гэтак усё жыццё мне цяпер пакутаваць?

— Але ж паспрабую. Трэба ж нешта рабіць з табою, бедаком? — яна ўсміхнулася, узнялася з-за стала і паднесла мне кубак. — Вось выпі, унучак, спачатку ўзвару. А тады кладзіся на ложак, а я пашапчу табе трошку.

Напой аказаўся гаркавым на смак. Без асаблівай ахвоты я выпіў яго дарэшты і ўладкаваўся на засланы стракатай капай ложак. Бабуля прысела побач, паклала мне на лоб далонь і пачала сваё шаптанне.

— Вадзіца-царыца, марская крыніца, ішла ты з-пад крутых гор, з-пад ясных зор, тонкімі жыламі, марскімі сіламі, падмывала ты крутыя берагі, мыла ты жоўтыя пяскі, умывала ты сырое карэнне, белае каменне, калоды валяныя, шоўкаву траву…

Суцішна і супакойна было мне адчуваць шурпатую сухенькую далоньку на ілбе. У патыліцы прыемна заказытала, як быццам нехта там унутры вадзіў лёгкім пёркам.

— …Прашу цябе, вадзіца-царыца, абмый жа ты ў хлопца-малойца ўсю яго балезь, калюшчую і гарушчую, і ветраную, і часінную, і зарынную, і паўдзённую, і вячэрнюю, і паўночную; і ўмывай з яго рацiва сэрца, з буйнай галавы і з русага воласу, громкага голасу, і з ясных вачэй, і з гаручых слёз, і з румянага твару. І ўсёй гэтай балезні ў хлопца-малойца не бываць ні гэты час, на гэты раз і на мой прыгавор. Ідзі з хлопца-малойца на мхі, на балоты, на гнілыя калоды…

Пад гукі ціхага, меладычнага голасу я незаўважна задрамаў, а калі расплюшчыў вочы — убачыў дзіўную карціну: бабуля трымала на далоні маё сэрца. Страшна выглядала яно, быццам невылечны калека ў апошнія свае пакутныя хвіліны: пакрытае закарэлымі струпамі, заплылае чырвона-чорнай густой вадкасцю ўперамешку з агідным жоўтым гноем сэрца цяжка ўздрыгвала.

— Бачыш, якое хворае стала тваё сэрца. Набрыняла яно адчаем, рэўнасцю, злосцю, абражаным гонарам.

Дзверы нячутна адчыніліся, і ў пакой зайшоў вялізны сабака. Не! Ці не воўк?! Столькі гонару і самавітасці, якіх не сустрэнеш у звычайнага сабакі, было ў позірку ягоных зялёных вачэй. Ён асцярожна ўзяў маё сэрца з бабулінай далоні сваімі вострымі ікламі, павярнуўся і пайшоў вонкі.

— Бяжы за ваўком, — прашаптала бабуля мне на вуха, — бяжы. Не губляй з вока сваё сэрца.

Я ўзняўся, зрабіў некалькі крокаў і здзівіўся, якім жа лёгкім зрабілася маё цела без сэрца. Я імкліва выйшаў з хаты і толькі ўбачыў, як у лясным гушчары мільгатнуў ваўчыны хвост. Памятаючы бабулін наказ, я кінуўся за ім. «Хіба ўганюся за хутканогім шэрым? — падумалася мне. — Апошні раз на доўгія дыстанцыі бегаў ці то ў школе, ці ва ўніверсітэце». Але дарма я хваляваўся: мае ногі незалежна ад маёй волі пабеглі-панеслі мяне, мае крокі рабіліся ўсё шырэйшыя і шырэйшыя, я спрытна абмінаў дрэвы, пераскокваў струхлелыя камлі і зараснікі кустоўя. І вось ужо бег побач з воўкам, мы разам несліся праз лясы і палі, пакідаючы ўбаку дарогі і людскія селішчы.

Не ведаю, колькі працягваўся наш шалёны бег. Час знік для мяне. А можа, мы былі хутчэй за час? Я забыў пра ўсе свае згрызоты і нуду, адчуваючы толькі радасць ад нястрымнага бегу, ад посвісту ветру ў вушах, ад мільгацення фарбаў.

Мы апынуліся на беразе. Мора? Акіяна? Перад намі распасціралася бязмежная блакітная роўнядзь, якую песцілі сваімі дотыкамі тысячы сонечных промняў. Мой спадарожнік у гэтай дзіўнай вандроўцы ўвайшоў у ваду і аддаў маё сэрца хвалі, якая падхапіла ды імкліва панесла яго ад берага. Воўк зірнуў на мяне сваімі разумнымі вачыма, у якіх бачыўся загад — за сэрцам! Я кінуўся ў ваду, нырнуў і хутка паплыў, быццам усё жыццё правёў у вадзе. Хоць плыў я хутка, але ўсё адно не паспяваў за мклівай хваляй. Неўзабаве я заўважыў, што побач са мною імчыць, паблісківаючы мокрай спінай, дэльфін. Я схапіўся за яго, абняў за бліскучую шыю, і вось ён ужо нёс мяне па водных прасторах. Я адчуваў такую лёгкасць, здольнасць зрабіць усё немагчымае, што, не баючыся згубіць раўнавагу, стаў дэльфіну на спіну і цяпер нёсся па вадзе падобна да гэтых шчасных спартоўцаў, якія ўсё жыццё гойсаюць па хвалях на адмысловых дошках. Але і гэта мне хутка надакучыла, і я пераскочыў на спіну суседняга дэльфіна — а гэтых гарэзнікаў, якія раз-пораз падскоквалі з вады, тут была цэлая плойма. Потым на іншую, потым на яшчэ адну… Атрымлівалася, што цяпер я бег па вадзе неверагодна хутка. Дэльфіны не былі супраць маёй забаўкі і толькі радасна гергеталі па-свойму. Але вось, пераскокваючы чарговы раз, я паслізнуўся і боўтнуў у ваду. Толькі я вынырнуў і паспеў глынуць паветра, як мяне нешта ўхапіла за нагу і пацягнула ўглыб. Калі я нарэшце разгледзеўся ў вадзе, то ўбачыў, што за нагу мяне трымае вялізная пашча, а вакол кружляюць акулы. Надзіва, я ані не баяўся іх, у мяне нават не ўзнікала думкі, што яны могуць зрабіць мне нешта благое. Мне здавалася, што яны шчэрацць свае зубастыя пашчы ва ўсмешках.

— Сэрца! — закрычаў я адной з іх, што якраз падплыла да мяне. — Мне нельга згубіць сваё сэрца!

Але замест слоў з майго роту выбухнулі дзясяткі бурбалак. Не паспелі яны расплысціся і знікнуць, як мяне ўжо зноў некуды цягнула. Вакол майго пояса абкруцілася нейкая тоўстая ружовая вяроўка. Але вельмі хутка я зразумеў, што гэта было насамрэч. Шчупальцам гіганцкага васьмінога, які, ухапіўшы мяне, прыцягнуў да сябе і цяпер уважліва разглядаў сваім вялікім вокам. Калі раней акулы падаліся мне блазнюкамі, то ў сінечы васьміногавай зрэнкі, прыгожа абведзенай залатым кольцам, мне ўбачылася філасафічная глыбіня. «Дык гэта, пэўна, цэлы падводны мысляр!» Я з вялікай цікавасцю даведаўся б ягоныя погляды на наш сусвет, але, на жаль, часу ў мяне не было. Я паказаў сабе на грудзі, потым торкнуў пальцам туды, дзе, здаецца, знаходзіўся надводны свет, і пастараўся тварам выразіць усю пільніцу майго вяртання туды. Не ведаю, што зразумеў васьміног з маіх мігаў, але вось, усё гэтак жа абшчапіўшы мяне шчупальцам, ён пачаў раскручвацца, набіраючы ўсё большую і большую хуткасць.

Такім чынам я апынуўся прымацаваным да жывой каруселі. І калі, дасягнуўшы максімальнай хуткасці вярчэння, васьміног вызваліў мяне, то я ракетай працяў водную тоўшчу і высока ўзляцеў у паветра. На вышыні вакол мяне адразу залёталі чайкі. Як быццам моцна абураныя маім нечаканым з'яўленнем, яны зласліва закігікалі-заенчылі: «Ну вы паглядзіце, паглядзіце на такі цуд! Цяпер гэты пачварны боўдзіла яшчэ і лятае!». Але яны памыляліся: узляцеўшы ажно ў белую пярыну аблокаў, я імкліва пачаў падаць, і, без сумневу, неўзабаве зноў бы аказаўся на гасцінах у акул, васьмінога ды іншых насельнікаў падводнага свету, калі б мяне ў гэты момант не падхапіў вялізны птах. Я адчуў, што знаходжуся ў надзейных кіпцюрах, але сэрца… Дзе маё сэрца? Я пачаў углядацца ў далёкую водную роўнядзь. Адзінае, што я заўважыў, дык гэта вялізную кітовую спіну, з якой вымкнула беласнежная бруўіна. Яна была такая моцная, што дасягнула нас, і на яе вяршыні я — о дзіва! — убачыў сваё сэрца, якое адразу ж і падхапіў.

— Дзякуй, дружа! — удзячна замахаў я кіту.

А птах тым часам ужо нёс мяне кудысьці. Прыціснуўшы адной рукой сэрца да грудзей, другую я адкінуў убок. Я лячу! Якая асалода была ў гэтым палёце! Мы рассякалі прыемна-прахалоднае паветра, якое выдзьмувала з мяне ўсю поскудзь. Я пачаў з цікавасцю ўглядацца долу. Пад намі праплывалі палеткі, што мелі самыя неверагодныя геаметрычныя формы і каляровыя адценні, як на карцінах мастакоў-абстракцыяністаў; іх акаймлялі, перасякалі хвалістымі стужкамі дарогі і рэкі; дрэвы дзесьці былі раскіданыя невялікімі купкамі, як шчэць на неахайна паголеным абліччы зямлі, а дзесьці пакрывалі вялізныя прасторы, як густа-зялёныя кудзеркі на нейчай галаве; акуратныя домікі, сабраныя купкамі ў вёсках і невялікіх мястэчках, і вялізныя плямы цывілізацыі, уторканыя незлічонымі ікламі высозных будынкаў і шчыльна забудаваныя скрынямі-шматпавярховікамі.

Пралятаючы над адным з гарадоў, я заўважыў у яго рысах нешта знаёмае. Птах, быццам адчуўшы гэта, закружляў нізка над вуліцамі. Так, я добра ведаю гэтую вуліцу і вунь той дом. Мы падляцелі да аднаго з вокнаў, і я змог зазірнуць у яго. У кватэры быў відаць ложак, на якім ляжала яна. Я адразу зразумеў, што гэта менавіта яна, нават не бачачы твару, і, прагнучы разгледзець лепей, прыціснуўся да шкла. Я прагна ўзіраўся ў абрысы так любага мне цела, якое, здаецца, толькі нядаўна ўсё ж і кожны закаханы, зліцца назаўсёды. Але цяпер яе абдымаў іншы: спачатку я заўважыў нейчую руку на ейным плячы, потым ён прыўзняўся і схіліўся над ёй, нешта нашэптваючы на вуха і цалуючы. Я адчуў у далоні сваё сэрца. Яно сутаргава скаланалася, ягоныя раны, якія, здавалася, цалкам загаіліся, зноў закрывавілі. Заплюшчыўшы ад невымоўнага шкадавання вочы, я прыціснуў яго да сваіх грудзей.

— Божа, як жа балюча!

— Ціха, унучак, ціха… Хутка боль пройдзе, — пачуў я над сабою ціхі голас і расплюшчыў вочы.

У прыцемках нада мною сядзела бабуля і спагадліва глядзела на мяне.

— Спі, унучак, спі. Позна ўжо. А заўтра прачнешся і паедзеш дадому.

Я ляжаў з мокрымі ад слёз вачыма і адчуваў унутры сябе гэтую пякучую рану. Дзе яна знаходзіцца? Сапраўды, у сэрцы? А ці не прыдумваем мы гэта ўсё? Але што тады гэтак моцна баліць? Што?

А раніцай мне стала лягчэй. Не тое, што боль цалкам знік, але ён ужо не быў такі шчымлівы. Перад маім адыходам бабуля запрасіла мяне за стол паснедаць.

— Ну ўсё, бабуля, каб я каго болей пакахаў… Крыў мяне Божа! — усміхаючыся, але не жартуючы, сказаў я, калі бабуля праводзіла мяне ў дарогу.

— Не тое ты гаворыш. Як можна без любові? На тое ж яно й сэрца, каб любіць. Любоў у кожным сэрцы ёсць, толькі не кожны чалавек яе ў свет аддае. Можа, думаюць, што скарб гэта такі вялікі, каб яго марнаваць, ці саромеюцца, ці баяцца, што іх прастачкамі палічаць. І вось так збірае ў сваім сэрцы ён любоў, збірае, а потым як абрыне яе раптоўна на аднаго чалавека. А таго не разумее, што хоць гэта і прыемны цяжар, але не кожны згодзіцца ўзяць яго. І тады апынецца самае святое, што ёсць у ім, на зямлі ў брудзе. Тады затоіць ён злосць на свет, на людзей. Таму, кажу, не аднаго адзінага чалавека ў цэлым свеце трэба любіць, а ўвесь свет і любімага чалавека ў ім. Часта яшчэ бывае: палюбяць хлопец з дзяўчынаю адно аднаго і закрыюцца ад усяго свету, як дзве палавінкі ракавінкі. І гэта няправільна, задыхнуцца яны самі сабой…

Вось табе і бабуля, думаў я, ідучы паляснои сцежцы. Лепш за любога філосафа гаворыць. А ці ўмее яна хоць чытаць, у школу ці хадзіла? Як там казала? Любіць увесь свет і людзей у ім… Я азірнуўся і ўпершыню заўважыў, як жа прыгожа вакол мяне. Увогуле, ці можна адшукаць штосьць больш жыццясцвярджальнае, чым веснавы сонечны ранак? Калі прырода выглядае вабнай маладзіцай у сваіх зырка-зялёных уборах, калі ўсе насельнікі зямлі, ад самых дробных да вялікіх, радуюцца жыццю і занятыя прыемнымі клопатамі ягонага працягу. Любіць той свет, які быў цяпер вакол мяне, было зусім проста.

Во! Заўважыў я на сцежцы проста ў сябе пад нагамі любоўную парачку: адна жаба ўскараскалася на другую і шчыльна абшчапіла яе лапамі. Прызнацца шчыра, спачатку ў мяне ўзнікла моцнае жаданне штурхануць гэтых каханкаў мыском чаравіка, каб не сядзелі тут пад нагамі, не перашкаджалі падарожным. Але я стрымаў сябе і прысеў каля іх. Як і казала бабуля, куды ні зірнеш — усюды гэтая любоў. Чакайце, чакайце, дык іх тут болей! На вялікшай памерамі жабе сядзелі два меншых жабёнкі. І тутака, аказваецца, у ляснои засені разыгрываюцца такія ж любоўныя драмы, як і ў людзей.

— Э, сябра, ты куды ўзлез? — злёгку штурхануў я галінкай верхняга. — Трэці лішні.

Але ён не звярнуў на мяне аніякае ўвагі.

# На Вялікдзень



Алена ІГНАЦЮК



Фота roscontrol.com

***

Бяжыць цягнік.
І мільгацяць ствалы бяроз —
нібыта абгарэлых...
Здаецца... Еду я праз Беларусь
на непатрэбную вайну...
А побач маладзён з гітарай...
Ён штосьці пяе пра космас —
як ідэяльны «дом для хлопцаў
ачмурэлых»,
хаваючы свой зрок
ў адценнях палыну.

А мо, і сапраўды,
няма чаго нам на зямлі
губляць?!..
І свет каштоўнасцяў
ад нас схаваны.
Мне на Вялікдзень
рукі Бога цалаваць...
Я папрашу:
хай памяняе планы
наконт людзей...
Няўжо не для дабра
народжаны мы ўсе?!.
Жывем каротка ў часе,
як раптоўныя пралескі...
А маладзён з гітарай...
Штосьці вярзе...
У космас ён з сабой
не возьме
нават гумарэскі.

## Мая душа з табою, Украіна!

Мая душа з табою, Украіна!
Ты ў беларускім маім сэрцы!!!
Ці гэта пра цябе акафіст
напісаў Скарына —
аб тым, што справы добрыя
бароняць тваё месца?

***

Штось сталася імгнення з намі?..
Навошта сон мой дні памножыў,
нібы залаткамі
на прадзіраўленым каптане?..
І твары пінчукоў,
як абясцэненыя грошы...

Але ж, здаецца,
я ў гуманітарным калідоры,
што з Марыупаля...
Вядзе Хрыстос
павольна
бежанцаў па моры...
І кожны пра айчыну думае...
Наперадзе ўбачылі ўсе
бераг суцяшэння.

Украіна!
Я па́даю перад табою на калені!!!
Сваёю Праўдай бездакорнай
і Сумленнем
ратуеш свет ад згубы...
І птушак галасы
хай распяюць найменні
тваіх сыноў-герояў...
Па-над Лаўрай!
І нават
мой каханы,
які ўжо два гады,
як Божанькам абраны,
і ён няспынна просіць за Цябе,
святая Украіна!

Мне нават пачало здавацца,
што і няма вайны,
што гэта толькі
тэматычная карціна,
якую мог пісаць,
хіба што Дзюрэр...

## Эпічная гісторыя

...Сасніла, што вядуць да шыбініцы
кожнага другога.
Хто з нас — не за вайну?
І хто — за Украіну!
Не можа ў свеце быць такога,
каб маці бачыла забойцам
свайго сына?!..

Вядуць да шыбініцы
кожнага другога.
І ўзбунтавалася дарога
і павярнулася да ягаднай
паляны,
дзе кожны беларусам
хоча быць названы...

Шырэе луг. А бераг
Днепра-Бугскага канала
наблізіў спевы маладзенькай
валынянкі...
Ой, бачу...
На дарозе танкі...

Адчула: ад палёў Валыні
даносіць вецер
дым вайны —
да Беларусі...
Ляцяць несупакоеныя гусі.
Крычаць: «Га-га...
Там паміраюць дзеці,
з якімі больш не будзем
забаўляцца!?..».
Штось на паляне ягаднай...
не ўтрымацца!
А вецер ураганны,
нібы падняў мяне...
І ўбок — на ГАЛАСЕЮ...
Я думкай жыта
ратавальнае пасею:
У гістарычных дворыках
«Падола»
няма абстрэлаў больш,
вайны няма... Нанова —
стракозкамі ляцяць
радкі Кастэнка Ліны
да вуснаў маладых,
шчаслівых — Украіны.

## Лімоны ад Боны

Па загадзе Сфорцы Боны
паразводзілі лімоны
пінчукі — і ў Крамянец
іх вязе ў дзянёк зімовы
рэнесансавы купец.

Там... З гары ўладарнай Боны
зляцеў вецер — улюбёны
ў колер згушчана-лімонны,
што — як сполах яркай знічкі
ці гуцулкі чаравічкі...
Нібы шоўк на целе музы
таго польскага паэта,
што з’явіўся праз гады...
Гэта ж Юліуш Славацкі —
пясняр зорнасці карпацкай!
Да музея — яго хаткі —
мне дзве замеці хады.

Ты чаму, ўладарка Бона,
палюбіла смак лімона? —
На манжэце — пырск крыві!?
Маю кнігу разгарні:
я ў сучасным Крамянцы,
каля помніка Бандэры...
У праўдзівасць лёсаў веру!
І паўсюдна снег бясконцы,
нібы век той... Боны Сфорцы...

З гары коцяцца лімоны,
як шары якой гірлянды...
Іх збіраюць у прыполы
крамянецкія «матроны»
ранкам ветрана-калядным...
Ну, а я? А я? А я?
Я чакаю караля! —
Майго мужа — дрывасека.
За галлём у лес паехаў.
У напрамку — аж да Дубна.
Калі вернецца, культурна
размалюем дзіў-паштоўкі —
хай трасуць галлё вавёркі...
І падорым крамянчанам...
То ж... Аксанам і Багданам...
Павіншуем з годам Новым...
У святле лімонаў Боны...

## Імпрэсіяністычныя настроі

***

Белы снег
і белы дзень...
Закахалася я ў цень
майго добрага суседа.
І выгульваю той цень —
як сабачку з назвай «Джэнь» —
і так будзе да абеда.
А там сонца! І абед...
Мой сусед выходзіць з ценю.
Не класічны ён паэт —
размаўляць з ім я не ўмею.
Вінаградам — не сусед —
частаваў мяне, мо, тыдзень...
То ягоны цень — імпэт
файна выразіў... Вось злыдзень!

***

Мяне! Няўжо мяне?
Снягір на снезе
намалюе вострай дзюбай.
Калі ж нямарная
Гадзі́на праміне,
я застануся птушкай Снегіра,
у фарбе яго любай —
нібы бурчэлае той птушкі
пачуццё...
Няўжо так да суботы будзе:
устрапянецца снегам
і маё жыццё...
Напэўна, не заўважаць
гэта людзі?
А мо ідэя я... для снегіра?
Як форма распрыгожанага
снегу...
З суботы мне ўзляцець ужо пара,
Ды толькі не хапае,
не хапае бегу...

## Шакаладзілася кава

А можа, я — трава... І ў рост...
Якую не скасілі...
Ці сцежка, што вядзе
ўсіх сваякоў маіх
да берага ракі...
Яны і не прасілі...
А можа, я рака,
што лотацццю цвіце...
То ж адчуваю:
не спыніцца нідзе вада,
пакуль не дабяжыць
да вернутага раю.
Ўсе шэсць дзясяткаў
здоўжылі мой шлях —
калючы, бы прайшла я па асоце...
Мяне мой Божанька
трымае на руках
калі хварэю ці бываю ў адзіноце.

Няўжо паштоўка я?
І ў гэты свет паслалі...
«Хто аўтар? —
Паэтэса» —
напісалі.
То місія мая:
хваліць ідэалізм,
даносіць людзям
таемнага быцця абрыс,
каб ранак іх пачаўся ў цудзе.

Ці я сасніла ўсё,
што раньш было?
«Не!» — запярэчылі гады́,
аж шэсць дзясяткаў.
Паэзіяй у хаце зацвіло.
Год-Цар, год-Паж,
год-Немаўлятка...
трымалі па драбінцы пірага...
Над намі поўня танцавала.
Спадала цяжару мінулага вага.
І смачна шакаладзілася кава.

## Жонка вужа

Ёсць настойлівая тэма...
Ой! Плача душа...
Ты не руш маю казку,
аранжавы дэман!
Бо я — жонка вужа.

Ой! Спякота і смага,
і стомлены жнівень...
Хутка восень.
Праз тыдзень — мяжа.
А там верас пачнецца...
Бераг сіняй Гарыні
мне падкажа сцяжынку —
да харомін вужа.

Прыхілю я да вуснаў
пялёсткі вяргіні...
Дэман, казку маю не паруш!
Мне здаецца — я ў сне Берагіні,
дзе свой рукапіс творыць
мой загадкавы муж.

***

Я жыву ў паўтарэннях,
нібы ў знаках-найменнях.
Паўтарае ўсе слёзы душа!
Паўтараецца любы
ў недакучлівых сненнях...
І ў яго кабінеце —
герб з выявай вужа...

...Рукапісныя кнігі,
прапахлыя хвояй...
Вось узорысты подпіс
ад імклівай рукі...
І заўважыла я...
Гэта ж трэба такое!!!
З маім мужам-вужом
П’юць вішнёўку —
Вякі.

# Рэдакцыйны выпадак

Антон ЗАРЭЧНЫ



Фота gazeta-n1

У рэдакцыйным вузкаватым калідоры з мінулага вечара стаяў непрыемны пах ад святочных падзей свята журналістыкі: пэўна, адбылася стыхійная вечарына з ужываннем моцных напояў, цыгарэт, парфумы… Таму калі Ігнат Макаравіч Каханоўскі, ветэран гарадской журналістыкі, заглянуў да калегі, намесніка галоўнага рэдактара абласной газеты «Летні ранак», то скрывіў вусны: такое магло быць толькі ў савецкія часы, ды і то — па вялікіх святах, а тут… пад пільным вокам галоўнага рэдактара, шматлікіх ідэолагаў ды іхніх памочнікаў… Бр-р-р-р!.. Нешта зусім журналісты страх страцілі, ці толькі так падалося?!.

Міхась Пятровіч Каржак, намеснік галоўнага рэдактара, быў на месцы за сваім працоўным сталом у невялічкім кабінеце, у якім таксама можна было павесіць сякеру…

На стале засталіся плямы ад разлітых напояў, закусі. На падлозе валялася нейкае шкарлупінне, бы на падворку дрэннага неахайнага гаспадара… Гаспадар кабінета сядзеў з чырвоным тварам і раскудлачанымі рэдкімі сівымі валасамі. Адзін вус тырчэў убок, а другі — пазіраў у столь…

— Ты акно хаця б адчыні, праветры памяшканне, а то ўсе мухі паздыхаюць заўчасна. Хто будзе рабіць пабудку, калі што раптам?.. — весела запытаў ветэран пяра і паперы.

Ігнат Макаравіч увогуле любіў пажартаваць, расказаць цікавы анекдот у добрай кампаніі. Ён не губляў сваю журналісцкую форму, кожны месяц друкуючы ў мясцовых газетах матэрыялы з былога, савецкага, жыцця, калі ён быў на вышыні сваёй прафесійнай кар'еры…

— Не хвалюйся, зараз усё паправім, — сур'ёзным тонам адказаў намеснік і нешта глытнуў з белага кубачка. — Прысаджвайся, расказвай, што хвалюе, што цікавага навокал… А то мы тут кіснем паціху.

— Ды нічога асаблівага не адбылося апошнім часам. Вось завітаў да цябе з прэзентам. — Ігнат Макаравіч дастаў з чорнага пацёртага партфеля загорнутую ў магазінную паперу бутэльку. — Мо якраз да часу табе будзе?! А то зусім тут закіслі… Толькі схавай адразу, каб ніхто раптам не пабачыў, што я табе прынёс, бо і так тут у вас, пэўна, не ўсё ў парадку з гэтымі справамі… — Каханоўскі падміргнуў сябру, паказваючы на бутэльку, і весела пасміхнуўся, быццам пачуў толькі што цікавы анекдот…

Міхась Пятровіч задаволена прыняў падарунак, паклаў у скрыню стала, прапанаваў асіплым голасам ветэрану выпіць віна.

— Не, пайду далей, бо ёсць справы… Ды я і з машынаю… — далікатна адмовіўся Каханоўскі і паспяшаў з кабінета, прычыніўшы за сабою шчыльна дзверы: так будзе лепей для ўсіх!

А намеснік рэдактара «Летняга ранку» Міхась Пятровіч Каржак ужо чацвёрты дзень лячыўся моцнымі напоямі зранку ў сваім кабінеце. Заходзіць туды было не зусім прыемна ад настоенага букета розных пахаў алкагольнай прадукцыі мясцовай вытворчасці. У рэдакцыі ўсе ведалі, што намеснік з'яўляецца даўнім аматарам моцных напояў, але ж трымалі на працы з розных прычынаў: не звальнялі то па просьбе жонкі, каб дапрацаваў да пенсіі, ці з іншых, не ўсім вядомых. Да таго ж усе ведалі, што лепш за намесніка справу журналісцкую ніхто не робіць: газету трэба ж выдаваць кожны тыдзень!..

Міхась Пятровіч часта злоўжываў даверам і парушаў дамоўленасці з галоўным рэдактарам і кіраўніцтвам галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення. А да канца дзейнасці кантракта яшчэ заставаўся амаль год. Ды і хварасціна часта трапляла яму пад «хвост», таму прыгодаў хапала. Добра, што нарэшце атрымаў першую выплату пенсіі: на той час неблагую. Таму, пэўна, ад радасці і пачаў піць «горкую»…

Але ўвогуле Міхась Пятровіч заўсёды лічыў сябе старым партыйцам-бальшавіком. Ён насіў пастаянна з сабою чырвоны партыйны білет даўно не існуючай партыі і даўно не існуючай краіны. Часта на падпітку ён даставаў білет з нагруднай кішэні і махаў перад носам сабутыльнікаў: «Ты не ведаеш, якая гэта сіла!..» — крычаў намеснік рэдактара. Але не ўсе разумелі, у чым сіла: ці то ў білеце, ці то ў былой партыі. Так, раней то была сіла, але цяпер… Той білет, пэўна, грэў сэрца Каржаку: ад настальгіі па былым не схаваешся. Часам выбівала слязу ад таго, што партыйны білет з ім побач, у кішэньцы, як некалі ваенны білет на службе ў войску. О-о, тады ён і стаў кандыдатам у члены партыі!.. Партыйны білет захоўваў моц Каржака, трымаў на паверхні жыцця…

У свой час, калі Каржак працаваў у абласной газеце, то атрымаў шматпакаёвую кватэру, меў неблагі аклад, прэміі, нават ездзіў за мяжу бясплатна па пуцёўках… Той партыйны білет быў не толькі для яго хлебнай карткай, але і гонарам за сябе, за краіну, за партыю. Але цяперыча заставалася толькі пахваляцца мінулым. Часам у застоллях Міхасю Пятровічу даставалася ад «меншавікоў» так, што даводзілася браць бюлетэнь, каб які тыдзень прасядзець у кватэры пад хатнім арыштам жонкі, хаваючы твар ад калег. Але ж Каржак бываў задзірыстым часцяком на падпітку, ды толькі ўсур'ёз яго ніхто не ўспрымаў: певень ды і толькі… Часцяком яго даносіў дамоў хто мацнейшы на плячы: Каржак быў малы ростам і хударлявы.

Газета выходзіла адзін раз на тыдзень, у пятніцу, таму ўся галоўная праца з ёю выпадала на чацвёрты дзень тыдня — чацвер. Так ужо ўсталявалася колькі гадоў запар: яшчэ пры ранейшым рэдактары так было. Але цяпер газетаю кіравала сур'ёзная жанчына Валянціна Іванаўна Валежына, якая трымалася дысцыпліны (прыехала на новую пасаду з раённага горада). Трэба было адпрацоўваць давер улады і абласнога кіраўніцтва ідэалогіяй і турызмам…

Але на гэты раз адчувалася пагроза для выхаду газеты ў патрэбны тэрмін, бо намеснік ніяк не мог справіцца са станам свайго здароўя і ўсур'ёз заняцца вёрсткаю газеты.

Ён у чарговы раз падышоў да шафы, дзе ўнізе стаяла распачатая бутэлька віна, і, уткнуўшыся туды галавою, пачаў налiваць у кубачак лячэбны напой, павярнуўшыся задам да дзвярэй так, каб адчыніць іх проста так было немагчыма…

Неспадзявана дзверы рыпнулі і пачалі адчыняцца адначасова з голасам галоўнай рэдактаркі газеты Валянціны Іванаўны, жанчыны яшчэ маладжавай, з уражалівымі формамі цела ды сілай у руках і ў голасе.

А Міхась Пятровіч быў свежага пенсійнага ўзросту, меў сціплы рост. Начальнік гарадскога ўпраўлення ідэалогіі і турызму называў яго «нізкарослым алкаголікам»… Ды ў намесніка была жывая натура: калі не злоўжываў, дык усё пад ім «гарэла». У працы ён быў спраўны: занятак свой добра ведаў, бо недарма скончыў два ўніверсітэты з адзнакаю…

…Дзверы мацней рыпнулі, і намеснік рэдактара амаль цалкам уляцеў у ніжнюю прастору шафы. Перад дзвярыма засталіся толькі ногі ніжэй каленяў.

— Што вы там шукаеце? — запытала рэдактарка са злосцю, ведаючы, што яе памочнік-намеснік ужо чацвёрты дзень «не прасыхае». У адказ той нешта прамармытаў і зацих, бо ў гэты момант дапіваў з кубачка віно, ухітрыўшыся не праліць такі патрэбны напой.

Рэдактарка настойліва штурханула дзверы так, што намеснік цалкам ужо апынуўся ў шафе, і падышла да стала, нагнулася і пачала шарыць па паліцах, пакуль не патрапіла на бутэльку гарэлкі, запакаваную ў магазінную паперу. Выхапіла з радасцю тую бутэльку і пайшла ў свой кабінет, які месціўся амаль насупраць кабінета намесніка. Што яна там рабіла, ніхто з рэдакцыі не ведаў, але калі сакратарка заглянула да яе па нейкай патрэбе, дык пабачыла, што Валянціна Іванаўна спіць, схіліўшы галаву на стол. На стале стаяла амаль парожняя бутэлька з-пад гарэлкі, фужэр і некалькі цукерак з пячэннем на талерачцы… «Давялі!..» — падумала сакратарка, ціха прычыніўшы дзверы на ключ… «Хай адпачывае!..»

Газета не выйшла ў друк своечасова, не патрапіла ў пятніцу зранку на паліцы шапікаў «Аблсаюздруку», а ўжо пасля абеду прыехаў у рэдакцыю «Летняга ранку» начальнік галоўнага ўпраўлення ідэалогіі і турызму для прыняцця арганізацыйных мер: «Не выйшла газета! Дыверсія, правакацыя! Напярэдадні выбараў! Паляцяць галовы!».

…Галоўны рэдактар газеты «Летні ранак» была на бюлетэні, а намеснік увогуле адсутнічаў на працы, знаходзячыся ў той момант на лецішчы ў свайго добрага сабутыльніка Васіля Рыгоравіча Пілонава: свята працягвалася і ў выходныя дні. Недзе па суседству крычаў певень, а ў дзесяцілітровай бутлі яшчэ шмат было пахучай брагі…


Фота stolicaonego

# Паміж Сцылай і Харыбдай

## Пра лёс і прозу Аляксандры САКОВІЧ

Алесь АКУЛІЧ

Яе творчасць стала тужлівым жыццяпісам беларускага выгнанніцтва-паязджанства. Лёс пісьменніцы быў няпросты, пакручасты. Уражанні і адчуванні перажытага ды ўбачанага склалі аснову яе апавяданняў і аповесцяў.

Іна Рытар (такія сапраўдныя імя й прозвішча пісьменніцы) нарадзілася 14 снежня (па старым стылі) 1906 года ў сям'і беларусаў далёка ад Беларусі — у Адэсе. Бацька служыў на чыгунцы, маці выхоўвала дзяцей: трох дачок і сына. Штогод на летнія канікулы яна прывозіла іх на Наваградчыну ў сваё роднае мястэчка Ярэмічы (дзе нарадзіўся таксама і муж). Матчына замілаванне роднымі краявідамі перадавалася і дзецям.

З шасці гадоў Іна пачала вучыцца ў жаночай гімназіі. Сёстры і брат пасля рэвалюцый былі змушаны кінуць вучобу і пачаць самастойна зарабляць на жыццё. Улетку 1921 года старэйшая сястра Ліда падалася на працу ў Менск, а восенню з Адэсы забрала да сябе і Іну. (Ліда працавала інспектарам дзіцячых прытулкаў. У адным з іх мела свой пакой.)

У Менску Іна Рытар (паўторым — у будучым Аляксандра Саковіч) скончыла педтэхнікум (аднакурснікамі, як успамінала, былі Андрэй Александровіч і «яшчэ пяць паэтаў») і марыла паглыбіць свае веды па гісторыі Беларусі, каб... напісаць гістарычны раман пра Кастуся Каліноўскага. З 1925 года вучылася ў БДУ, дзе слухала лекцыі вядомых выкладчыкаў М. Доўнар-Запольскага, У. Ігнатоўскага, У. Пічэты, В. Дружчыца. Затым была праца ў Пярэвіцкай сямігодцы — выпускніцы гістфаку БДУ прапанавалі выкладаць не прыродазнаўства (так на той час называўся курс гісторыі ў школах), а мову і літаратуру.

І быў зноў Менск, праца лабарантам-кансультантам у кабінеце мовы і літаратуры рабфаку БДУ. Сястра Ліда стала жонкай беларускага пісьменніка Міхайлы Грамыкі. Яны здымалі кватэру на Шпітальнай вуліцы. Калі ў сястры падраслі дзеці і стала цесна, Лёсікі, якія па-суседству мелі вялікі прыгожы дом, прапанавалі А. Саковіч асобны пакой. Непадалёк жылі і сем'і Якуба Коласа (другі Шпітальны завулак), і Максіма Гарэцкага, Івана Серады (першага старшыні Рады БНР). Жонка Язэпа Лёсіка — «цётка Ванда» — празвала А. Саковіч Казачонкам і, як згадвала пісьменніца, узяла «пад сваю апеку». Лёсікі сябравалі з Купаламі (трое Лёсікавых дзяцей — Юрка, Люцыя і Алеська — хадзілі ў дзіцячы садок, які ўзначальвала «цёця Ўладзя» — жонка Янкі Купалы).

Аднаго разу на сумесную вечарынку ў доме Лёсікаў сабраліся «старыя» (гаспадары і Янка Купала з Купаліхай, Ластоўскія) і «маладыя» (сябры А. Саковіч: літаратар Янка Юрашкевіч, гісторык Мікола Улашчык, — пра тую сустрэчу ён напіша ўспаміны, — доктар Язэп Бараноўскі і дачка Вацлава Ластоўскага (ад першай жонкі) Ганна, муж якой быў асуджаны ў Летуве на пятнаццаць гадоў «за камунізм»).



Аляксандра Саковіч

Былі знаёмствы, шчырыя размовы, жарты. У той вечар Янка Купала падпісаў будучай пісьменніцы сваю «Жалейку»: *«Мілай дзяўчыне Іне Рытар, на ўваходзіны. Шчыра адданы Янка Купала. 20.1.1930 г.»*.

Праз некалькі месяцаў ДПУ назаве тую сяброўскую вечарыну «канспіратыўным сходам у доме Лёсікаў». У чэрвені 1930-га арыштавалі Я. Юрашкевіча, М. Улашчыка, Я. Бараноўскага, у ліпені кінулі за краты Я. Лёсіка, М. Грамыку, В. Ластоўскага — і яшчэ тысячы беларусаў. А. Саковіч зноў перабралася ў дом старэйшай сястры, каб дапамагаць даглядаць дзяцей, пакуль тая хадзіла на працу (пазней Ліда паедзе за ссыльным мужам М. Грамыкам у далёкі Кіраўск).

Але маладое жыццё працягвалася. Летам 1930-га А. Саковіч выйшла замуж. Муж Дамінік Сеўрук (унук паўстанца 1863 года, сын прафесійнага рэвалюцыянера-партыйца) быў камсамольцам, захапляўся тэхнічнымі навукамі, скончыў інстытут у Маскве і застаўся там працаваць інжынерам-канструктарам. Жонка перабралася да мужа. Пачалі з'яўляцца дзеці, а гора неадступна крочыла следам: памёр першынец Леанард. Абвінавацілі ў контррэвалюцыйнай дзейнасці і мужа, арыштавалі і выслалі на Калыму (дзе ён і загінуў). З двухгадовай дачкою (таксама Інай) давялося вяртацца ў Беларусь у родныя Ярэмічы...

Пачалася вайна. Аляксандра Саковіч з дачкой перабраліся ў Наваградак — падалей ад Налібоцкай пушчы і фашысцкіх аблаў на партызан (Ярэмічы тры разы гарэлі). А. Саковіч працавала ў настаўніцкай семінарыі, а ў 1944 годзе з дачкою выехала ў Нямеччыну, жыла ў «лагеры для перамешчаных асобаў». Няшчасце ж — неадступна: памерла малая Інка.

У траўні 1950 года на вайсковым транспартным караблі А. Саковіч дабралася да берагоў ЗША. Працавала на дробных «фабрыках» у Нью-Ёрку. У 1955-м выйшла замуж за пісьменніка і грамадскага дзеяча Аўгена Калубовіча (псеўданім — Аўген Каханоўскі) і пераехала з ім у Кліўленд. *«І няма ў нас цяпер месца на зямлі, якое завецца бацькавым гняздом»*, — горычна завяршала пісьменніца сваю аўтабіяграфічную нататку «Пра тое, што ў сэрцы»...

Літаратурную дзейнасць Аляксандра Саковіч пачала ў 1944 годзе — пад псеўданімам Б. Еўтух. У газеце «Раніца» за 13 снежня былі надрукаваны яе ўспаміны «Менск у 1930—1931 гадах». Багатыя на фактаграфічны матэрыял, шчырыя, запамінальныя і згадкі пісьменніцы пра Янку Купалу, Якуба Коласа, М. Доўнар-Запольскага, П. Бузука, Я. Лёсіка, М. Грамыку, А. Цвікевіча ды іншых дзеячоў беларускай культуры.

У 1957 годзе А. Саковіч дэбютавала апавяданнямі «У няведам'е» (часопіс «Конадні», Нью-Йорк—Мюнхен) і «Мы з адной сям'і» (газета «Бацькаўшчына», №№ 51—52). Трэба адзначыць, што і апавяданні А. Саковіч нагадваюць своеасаблівыя мастацкія ўспаміны, пісьменніцкія мемуары, — жалобны летапіс беларускіх лёсаў. Як і сама А. Саковіч, у далёкі выгнанніцкі шлях выпраўляецца з малой дачушкай летам 1944 года стомленая жыццём Ванда («У няведам'е»)...

Апавяданнем «З кім яна?» (такая аўтарская назва апавядання «Мы з адной сям'і») А. Саковіч нібыта прадчувала-ўгадвала быкаўскія апавяданні 90-х гадоў — зборніка «Сцяна», прычым як у ідэйна-праблемным (гісторыя паўстанцаў-«нацыяналістаў», выкрыццё антыгуманнасці таталітарнага рэжыму, узвышэнне ідэалаў свабоды), так і ў жанрава-стылёвым плане (прытчава-рэквіемны характар, апакаліптычнасць светаадчування). Нібыта трагічная п'еса абсурду вымалёўваецца перад намі ў апавяданні «З кім яна?»: сувязны беларускай падпольнай арганізацыі, у былым студэнт, Кастусь Беразоўскі па дарозе ў Вільню вырашае наведаць бацькоў, з якімі не бачыўся ўжо цэлы год. Родная хата ў Міры занята чужынцамі. Вайсковец (як пазней высветліцца — начальнік райваенкамата) усчыняе допыт і паведамляе Кастусю аб тым, што бацькí — гаспадары хаты — высланыя як ворагі народа.

У апавяданні «З кім яна?» прасочваецца і праблемнае падабенства з «Раскіданым гняздом» Янкі Купалы. Не хоча бачыць зганьбаваным бацькоўскае гняздо і герой беларускай літаратуры 50-х гадоў Кастусь Беразоўскі. Супраціўляючыся свайму арышту, ён забівае вайскоўца-чужынца. Як і Купалаўскі герой, ён таксама выбіраецца «на сход, па Бацькаўшчыну»: «Мы мусім біцца, каб жыць. У нас няшмат часу для сябе саміх. Цяпер я мушу йсьці на Вільню. Ісьці сам».

Архетып раскіданага (страчанага, забранага) гнязда-краіны ўвасабляецца і ў апавяданні «Асірочаныя». У двухпавярховым катэджы жывуць галоўныя героі Марыя і яе дачка Аленка. Год таму яны пакінулі Радзіму. Пра тое, ці знайшлі яны шчасце на чужыне, гаворыць ужо сама назва апавядання. Асабліва маркоціцца ў выгнанні малая Аленка — без родных і блізкіх. З вялікай радасцю яна сустракае вестку аб тым, што ў іхні Бібарах едзе — да суседа Тышкевіча, — дзядзька Юрка. Юрка Цытовіч, сваяк па мужу, даслаў ліст, і ў Марыі ўзніклі западозранні: ці не правакатар гэта (асобныя радкі ліста былі зусім як не Юркам пісаны: *«намазаў пяткі, змывацца зьбіраюся»*). З'яўляецца Юрка — *«якісь нервовы, мітусіцца без патрэбы, голасна гаворыць. Бутэльку з сабою прывёз... Чырвоны, успацелы твар, расшпіленая нясьвежая кашуля»*. Амаль непазнавальна змяніў лёс Цытовіча, ён *«мусіў <...> зьесьці пуды паскуднага жыцьця»*, а *«яно застрала ў горле... у сэрцы»*.

Апавяданнем «Асірочаныя» А. Саковіч засведчыла і тое, што змагла пераадолець пэўную фабульную схематычнасць, уласцівую яе першым апавяданням. Героі пісьменніцы набывалі псіхалагічную ўскладнёнасць, апісаныя падзеі пачыналі асэнсоўвацца глыбей, аналітычней.

Сімвалічнае гучанне мае апавяданне «Чортава Вока». Чортава Вока — вялікая яміна-бездань, што ляжыць у полі пры дарозе паміж роднаю вёскаю гераіні апавядання (яно напісана ад першай асобы) і Карэлічамі. Аднойчы людзі вырашылі засыпаць яміну — тры дні некалькі вёсак вазілі каменне з поля і лесу, а таўро багны не меншала. Такі амаль легендарны пачатак мае ў «Чортавым Воку» трагічна-рэалістычны працяг. Чортава Вока вайны — як сімвал-увасабленне скрутнага лёсу — праглынула не толькі маці гераіні, але і ўсе надзеі на шчасце, мінулае, урэшце — Радзіму.

Псіхалагічна заглыбленымі атрымліваліся ў А. Саковіч дзіцячыя характары. Шматгранным атрымаўся вобраз малога Петрыка ў апавяданні «Петрыкаў тата» — адным з лепшых твораў А. Саковіч. Сваёй хаты, свайго роднага гнязда Петрык не мае. Ён жыве ў эмігранцкім бараку ў Міхэльсдорфе разам з маці і бабуляй, штодня распытвае пра тату. І аднойчы да іх прыйшоў «высокі мужчына», муж Петрыкавай маці, але не Петрыкаў бацька. *«Чыё гэта дзіця?»* — апякае малога халоднае запытанне. Суседзі расказваюць Петрыку, што ягоны тата — на бацькаўшчыне. *«А дзе бацькаўшчына?»* — распытвае малы сваіх сяброў. Адны не ведаюць, найбольш «аўтарытэтны» Алег адказвае: *«За мастом»*. Пабраўшыся за рукі, дзеці вырашаюць ісці на бацькаўшчыну...

Дасканала выпісвала А. Саковіч і жаночыя характары. Ва ўсіх персанажаў — нешчаслівыя лёсы выгнанніц, нават лёсы сімвалічныя: у большасці з іх гінуць дзеці — нібыта гіне і надзея на светлую будучыню.

Ваеннае ліхалецце і яго ўплыў на жыццё беларусаў — тэматыка і дзвюх аповесцяў А. Саковіч — «Браты» (1967) і «Паміж Сцылай і Харыбдай» (1977). У цэнтры канфлікту першай — ужо знаёмае ў літаратуры сутыкненне дзвюх жыццёвых пазіцый, двух характараў братоў Максіма і Вадзіма Назарэвічаў. Першы з іх ахвяруе жыццё дзеля заваёвы незалежнасці сваёй Бацькаўшчыны, другі ідзе на супрацоўніцтва з НКУС — і пакутуе доўгія гады (стаўшы прадстаўніком савецкай місіі, трапляе ў ЗША і, сустрэўшы там братавых знаёмых, «просіць азылю», вырашае эміграваць).

Большай творчай удачай А. Саковіч стала аповесць «Паміж Сцылай і Харыбдай», сюжэт якой пабудаваны на ўжо вядомым нам «быкаўскім» мастацкім топасе: сустрэчы знаёмых у мінулым людзей. Блізкая да быкаўскай — з праявамі лапідарнасці, удумлівая, крыху рацыянальная — і стылістыка аповесці.

Трагічна-тыповы лёс рэпрэсаванага фізіка-навукоўца Конрада Зяневіча: не стрываўшы допытаў, ён «раскалоўся» і па падказцы НКУС нагаварыў на свайго сябра Віктара (які пасля гэтага загінуў). Конрада высылаюць у Сібір, затым, пры пераглядзе справы ў мінскай турме, ён патрапіў пад бамбёжку і збег (ужо «хрэстаматыйны» ў беларускай эмігранцкай прозе сюжэт). У матчынай хаце Конраду не дае спакою прывід следчага-ката з НКУС Палякова — ўсхопліваецца, бяжыць на вуліцу, вые. Спакойнае жыццё (сустрэча з жонкай), здаецца, вылечвае ад вар'яцкага нахлання. І вось аднойчы партызанскі сувязны перадае Конраду ліст ад свайго камандзіра — аб мабілізацыі ў атрад. Конрад мусіць чакаць, калі да яго з заданнем з'явіцца «заслужаны бальшавік, удзельнік Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Петраградзе таварыш Палякоў» — ягоны колішні следчы.

Падзеі ў аповесці развіваюцца з дэтэктыўнай вастрынёй. Конрад чакае Палякова, каб адпомсціць яму за былыя здзекі. Ноччу ў цёмнай клеці, куды той мусіў прыйсці, сякерай забівае, як высветлілася, не Палякова, а сябра Трахіма. І сам гіне, так і не даведаўшыся пра сваю новую трагедыю.

Зло нараджае новае зло, грэх прыносіць новы грэх — такую маральна-этычную выснову выводзіць у аповесці «Паміж Сцылай і Харыбдай» А. Саковіч, відавочна пашыраючы ў нашай літаратуры ідэйна-праблемную панараму, прадаўжаючы на новай фактуры філасофскія і маральныя сентэнцыі Кузьмы Чорнага, Ф. Аляхновіча і іншых беларускіх празаікаў.

Проза А. Саковіч, асабліва «поўнафарматная», мае прыкметны флёр публіцыстычнасці. Так, галоўную ідэю-«першаштуршок» аповесці «Паміж Сцылай і Харыбдай» агучыў яе герой, дырэктар Туравіцкай сямігодкі: *«Савецкі Саюз і Нямеччына <...> выкарыстоўваюць нас, зацягваюць нас у вір свайго змаганьня. Вынік? Зьнявечаныя людзі, магілы, паняволеная, як і раней, Бацькаўшчына. Наш народ, нашая ідэя незалежнасьці церпіць. Трагедыя ў тым, што і на адным, і на другім баку нашы лепшыя інтэлектуальныя сілы гінуць ці капітулююць...»*.

Малюючы жудасны час ваеннага ліхалецця, А. Саковіч пакідае вайсковыя дзеянні «за кадрам». Яна — летапісец вайны ў людскіх душах, мастак-храніст свайго трагічнага і паказальнага лёсу. Яе героі — падлёткі з «раскіданага гнязда», якія не маюць ні сваёй сям'і, ні краіны. У лепшых творах пісьменніца набліжалася да мастацкага адлюстравання (прычым з падкрэслена жаночай пазіцыі) народных светапоглядных і быццёвых асноў, якім было наканавана развівацца ў неспрыяльны перыяд вайны і нацыянальнага ўціску.

Развівацца паміж Сцылай і Харыбдай (у старажытнагрэчаскай міфалогіі марскія пачвары, якія жылі каля вузкага праліва і падпільноўвалі мараходаў; праплыць паміж імі здолелі толькі арганаўты і Адысей).

Паміж Сцылай часавага ліхалецця і Харыбдай скрутнага лёсавага віру яна імкнулася заставацца шчырай арганаўткай беларушчыны.

...Жалобная вестка пра смерць Іны Рытар — Аляксандры Саковіч — прыйшла на яе Радзіму 8 студзеня 1997 года.

# Патрыёт Украіны, друг Беларусі

## Да 125-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра САСЮРЫ

Васіль ЖУКОВІЧ

### З біяграфічнай даведкі

Уладзімір Сасюра (па-ўкраінску — Володи́мир Сосюра) нарадзіўся па новым стылі 6 студзеня 1898 года на станцыі Дэбальцава Данецкай вобласці Украіны. Яго бацька, Мікалай Уладзіміравіч, чарцёжнік па спецыяльнасці, меў французскія карані. Будучы чалавекам няўрымслівым і living рознабакова адораным, змяніў шмат прафесій, настаўнічаў, працаваў сельскім адвакатам, шахцёрам. Маці паэта — Антаніна Данілаўна Лакаташ — родам з Луганска, займалася хатняй гаспадаркай.

З малых гадоў Уладзімір Сасюра быў чарнаробам, працаваў бондарам на заводзе, у шахтах Данбаса; скончыў сельскую школу і паступіў у агранамічную; браў удзел у Грамадзянскай вайне: спачатку на баку Украінскай Народнай Рэспублікі, затым — у Чырвонай Арміі. Пасля заканчэння вайны вучыўся на рабфаку пры Харкаўскім інстытуце народнай адукацыі. Быў удзельнікам літаратурных арганізацый «Плуг», «Гарт», ВАПЛІТЭ, ВУСПП. У 1942—1944 гадах працаваў ваенным карэспандэнтам. У 1951 годзе стаў аб'ектам цкавання пасля артыкула ў газеце «Правда», якая абвінавачвала Сасюру ў «буржуазным нацыяналізме» за верш «Любіть Україну», напісаны ў 1944 годзе.

Памёр 8 студзеня 1965 года.

### Штрыхі да партрэта

Ён быў шчырым сябрам Беларусі, называў яе сінявокай сястрой Украіны. З вялікай сімпатыяй пісаў пра нашых творцаў, Максіма Багдановіча параўноўваў з Міхаілам Лермантавым. Часта наведваў нашую краіну, з многімі сябраваў, таму не выпадкова называў Уладзіміра Дубоўку сябрам, Андрэя Александровіча — братам.

Балела яго чалавечнае сэрца па Міхасю Чароту, Цішку Гартнаму, Алесю Дудару, па ўсіх сталінскіх ахвярах 1930-х гадоў.

Першы штрых да партрэта Уладзіміра Сасюры: ён па сваім нацыянальным паходжанні не ўкраінец: па бацьку — француз, пра што, дарэчы, сведчыць прозвішча, якое ўяўляе сабой украінізаваны варыянт французскага дэ Сасюр; маці ж яго была мадзьярка-венгерка (мела таксама сербскія, габрэйскія і ўкраінскія карані, была вельмі прыгожай, падобнай да цыганкі, характар яе быў «цяжкім»). Калі я прачытаў пра гэта, дужа здзівіўся.



Уладзімір Сасюра, 1950-я гг.

Але ніколькі не дзіўлюся, што ўкраінская духоўнасць выхавала ў яго асобе знанага нацыянальнага паэта і патрыёта Украіны.

Штрых другі: падчас грамадзянскай вайны У. Сасюра служыў дабравольцам украінскага войска на чале з Сымонам Пятлюрам, больш за тое — быў нават у асабістай ахове Пятлюры (у адным з вершаў паэт узгадвае: «...груші в Петлюри я рвав у саду»).

Трэці штрых: ён паспяхова перажыў крывавага дыктатара, які так метадычна патрабаваў вышукваць і караць «ворагаў народа», яшчэ й быў узнагароджаны яго ж прэміяй у 1948 годзе за зборнік «Каб сады шумелі» (1947).

А затым пільны таталітарны рэжым «апамятаўся» і пачаў бэсціць свайго лаўрэата за верш «Любіце Украіну», створаны яшчэ ў 1944-м годзе і змешчаны якраз у тым прэміраваным і таму, здавалася б, недатыкальным зборніку «Каб сады шумелі».

У звязку з вершам «Любіце Украіну» фігуравала так званая «справа Сасюры». Вось як у далёкім замежжы ў 1952-м годзе Васіль Грышко каментаваў тыя падзеі: «...украінскі патрыятызм, нават абмежаваны толькі звычайнаю любоўю да Украіны, стаў для бальшавікоў небяспечны. Пачаўся спешны адыход назад, на старыя і сталыя пазіцыі безагляднага знішчэння ўсяго ўкраінскага. І тут прыйшла чарговая і, можа, ужо апошняя бальшавіцкая "аперацыя" сэрца Сасюры...».

А верш, які трапіў у апалу, як кажуць, бяскрыўдны, такі светлы і аптымістычны, у ім нават матыў дружбы народаў прысутнічае, ды не ў той, не ў традыцыйнай па тым часе паслядоўнасці выказаны інтэрнацыянальнае і нацыянальнае пачуцці:

***

*Любіть Україну, як сонце, любіть,*
*як вітер, і трави, і води...*
*В годину щасливу і в радості мить,*
*любіть у годину негоди.*

*Любіть Україну у сні й наяву,*
*вишневу свою Україну,*
*красу її, вічно живу і нову,*
*і мову її солов›їну.*

*Між братніх народів, мов садом рясним,*
*сіяє вона над віками...*
*Любіть Україну всім серцем своїм*
*і всіми своїми ділами.*

*Для нас вона в світі єдина, одна*
*в просторів солодкому чарі...*
*Вона у зірках, і у вербах вона,*
*і в кожному серця ударі,*

*у квітці, в пташині, в електровогнях,*
*у пісні у кожній, у думі,*
*в дитячий усмішці, в дівочих очах*
*і в стягів багряному шумі...*

*Як та купина, що горить — не згора,*
*живе у стежках, у дібровах,*
*у зойках гудків, і у хвилях Дніпра,*
*і в хмарах отих пурпурових,*

*в грому канонад, що розвіяли в прах*
*чужинців в зелених мундирах,*
*в багнетах, що в тьмі пробивали нам шлях*
*до весен і світлих, і щирих.*

*Юначе! Хай буде для неї твій сміх,*
*і сльози, і все до загину...*
*Не можна любити народів других,*
*коли ти не любиш Вкраїну!..*

*Дівчино! Як небо її голубе,*
*люби її кожну хвилину.*
*Коханий любить не захоче тебе,*
*коли ти не любиш Вкраїну...*

*Любіть у труді, у коханні, у бою,*
*як пісню, що линє зорею...*
*Всім серцем любіть Україну свою —*
*і вічні ми будемо з нею!*

***1944 г.***

А цяпер — чацвёрты штрых да партрэта ўкраінскага патрыёта: у ягоным уступе да паэмы «Мазепа» (1928) ёсць такія бязлітасныя радкі, звернутыя да той жа святыні, да роднай краіны:

*У голові твоїй — макуха!*
*Хіба ж ти можеш жить сама,*
*Російсько-польська потаскуха,*
*Малоросійская тюрма!*

Даўшы такога перцу, аўтар, пранікнёны лірык, тут жа схамянаецца:

*Ах, я люблю тебе, Вкраїно,*
*і сам не знаю, що кажу!*

І ў рэшце рэшт сын, які не раз ішоў за Маці на смерць, прызнаецца:

*Лиш одного я хочу, мамо,*
*щоб ти щасливою була...*

Цудоўна! Але трапіў бы гэты цуд ва ўмовах пільнага ідэалагічнага нагляду і кантролю ў «лапы» сталінскіх даносчыкаў — бяды не адвёў бы ніхто. Спагадлівы лёс У. Сасюры даў яму дажыць да хрушчоўскай «адлігі» і атрымаць у 1963-м годзе Дзяржаўную прэмію УССР імя Тараса Шаўчэнкі за кнігі паэзіі «Ластаўкі на сонцы» і «Шчасце сям'і працоўнай».

Пяты — апошні — штрых да неардынарнага партрэта: У. Сасюра быў





камуністам з 1920 года. Ён з'яўляўся аўтарам кніжак «Чырвоная зіма» (1922) пра гераіку кастрычніцкіх падзеяў і грамадзянскай вайны; «Днепральстан» (1930), «Новыя вершы» (1937), «Жураўлі прыляцелі» (1939) — пра будаўніцтва сацыялізму ва Украіне. Былі ў яго і кнігі пра подзвігі на Вялікай Айчыннай вайне і пра мірную працу. Была і паэма «ГПУ», былі вобразы накшталт «Цвіте Червона Україна», публіцыстычная тарабаршчына: «Безсмертна воля ВКП», траплаліся рыфмы «Ілліч — клич» і г. д.

«Прыстасаванец! Двурушнік!» — можа падумаць хтосьці. Ах, гэты паспешлівы суд!.. У хрэстаматыі ўкраінскай літаратуры і літаратурнай крытыкі XX стагоддзя «Украінскае слова» (1994) можна прачытаць пра дваістасць У. Сасюры, выкліканую цяжкім унутраным канфліктам, — гаворка ідзе пра барацьбу ў асобе паэта дзвюх сілаў — свядомасці і пачуцця, розуму і сэрца; пра тую нялёгкую барацьбу не маўчыць і сам паэт:

*Рвали душу мою*
*два Володьки в бою... —*
*рвали душу мою*
*к о м у н а р*
*і*
*н а ц і о н а л і с т...*

Сучаснаму чытачу не так цікава ведаць, калі і хто ў гэтай неардынарнай асобе перамагаў — сардэчны ўкраінец з глыбокім нацыянальным пачуццём ці камуніст. Важна іншае — тое, што ў яго душы праз усё наноснае прабівалася крынічная паэзія.

Запавет «Любіце Украіну» лёгка пераносіцца і на нашую рэчаіснасць. Дзякуй, сын Украіны, што выклікаеш блізкае пачуццё: любіць Беларусь!



Паэты-цёзкі і сябры У. Дубоўка і У. Сасюра. Мінск, 1925 г.





Магіла У. Сасюры ў Кіеве. Фота са старонкі праўнука Аляксея Сасюры ў Facebook

# Прэмія памяці Астрыд Ліндгрэн

Лаўрэатам Міжнароднай прэміі памяці Астрыд Ліндгрэн, якая штогод прысуджаецца за дасягненні ў галіне літаратуры для дзяцей і юнацтва, у 2023 годзе стала амерыканская пісьменніца Лоры Холс Андэрсан (Laurie Halse Anderson).


Лоры Холс Андэрсан

Прэмію памяці Астрыд Ліндгрэн у памеры пяці мільёнаў шведскіх крон (каля паўмільёна даляраў ЗША) заснаваў урад Швецыі пасля смерці пісьменніцы ў студзені 2002 года. Яна прысуджаецца з 2003 года Нацыянальнай радай культуры Швецыі аўтарам і ілюстратарам, чыя літаратурная творчасць для дзяцей і юнацтва «прадстаўляе найвышэйшыя мастацкія каштоўнасці і гуманістычны дух, якія былі блізкія Астрыд Ліндгрэн». Гэта адна з самых прэстыжных узнагарод у свеце для аўтараў і аўтарак дзіцячых кніг.

На сёлетнюю прэмію быў вылучаны 251 кандыдат з 64 краін. Пераможцу абвесцілі ў праграме, якая транслявалася ў прамым эфіры са Стакгольма, і на Балонскім дзіцячым кніжным кірмашы.

*«Лоры Холс Андэрсан — адна з вядучых амерыканскіх аўтарак для моладзі. У сваіх старанна напісаных раманах Лоры Холс Андэрсан выяўляе пошук сэнсу, ідэнтычнасці і праўды як у сучаснасці, так і ў мінулым Яе раман "Гавары" быў апублікаваны ў 1999 годзе, перакладзены на многія мовы і экранізаваны. У сваіх раманах для юнацтва яна агучвае падлеткавы вопыт, часам жорстка. Імкненне да кахання, пошук сэнсу, ідэнтычнасці і праўды — сталая тэма для Андэрсан. Яе зтрочны зіхатлівы рэалізм раскрывае жыццёва важную ролю часу і памяці ў жыцці маладых людзей. З далікатнай сілай пісьменніца абуджае настрой і эмоцыі і ніколі не ўхіляецца нават ад самых складаных тэм»,* — гаворыцца ў каментары журы Прэміі.

Лоры Холс Андэрсан нарадзілася ў 1961 годзе ў Патсдаме, штат Нью-Ёрк. Дэбютавала як пісьменніца ў 1996 годзе з дзіцячай кнігай аб прыгодах кенійскай дзяўчынкі, якая кожны дзень была вымушана прабягаць некалькі міляў, дабіраючыся да школы. У 1999 годзе выйшаў у свет яе маладзёжны раман «Гавары». Тэмай кнігі стала адчужэнне трынаццацігадовай дзяўчыны, якая падверглася сэксуальнаму гвалту. «Гавары» атрымаў некалькі ўзнагарод і патрапіў у шорт-ліст National Book Award, галоўнай літаратурнай прэміі ЗША. Кніга была перакладзена на 16 моў. У 2009 годзе пісьменніца была ўганаравана Прэміяй Маргарэт А. Эдвардс, якая прысуджаецца Амерыканскай бібліятэчнай асацыяцыяй за «значны ўклад у літаратуру для моладзі».

# Прэмія імя Нітчанкі

Лаўрэатамі Усеўкраінскай прэміі 2023 года імя Дмітрыя Нітчанкі сталі доктар філалагічных навук, прафесар кафедры сацыялогіі і сацыяльнай работы Ужгарадскага нацыянальнага ўніверсітэта, эксперт Офіса Вярхоўнага камісара АБСЕ па справах нацыянальных меншасцяў Галіна Шуміцкая, паэт-песеннік, драматург тэатра і кіно Ігар Жук і грамадскі дзеяч, акцёр, мадэратар на сцэне падчас «аранжавай рэвалюцыі», экс-міністр культуры, цяпер вайсковец Узброеных сіл Украіны Яўген Нышчук.


Дзмітрый Нітчанка

Прэмія імя Дмітрыя Нітчанкі — узнагарода, якая штогод уручаецца за прапаганду ўкраінскага слова. Прэмія была заснавана ў 2000 годзе Лігай украінскіх мецэнатаў і сям'ёй Дмітрыя Нітчанкі (Аўстралія).

Прэзідэнт Лігі ўкраінскіх мецэнатаў Уладзімір Загорый адзначыў: *«Людзі, якія атрымліваюць Прэмію імя Дмітрыя Нітчанкі, сапраўды прыклалі шмат намаганняў для абароны ўкраінскага друкаванага слова, папулярызацыі нацыянальнай літаратуры».*

Дмітрый Нітчанка (літаратурны псеўданім Дмітрыя Ніцэнкі) — украінскі літаратуразнаўца, пісьменнік, мемуарыст, рэдактар, даследчык літаратуры, педагог, грамадскі дзеяч, мецэнат, які жыў і працаваў у Аўстраліі. У 1949 годзе Д. Нітчанка з сям'ёй пераехаў у Аўстралію: працаваў у кар'ерах, на электрастанцыі, а ў вольны час вывучаў ангельскую мову і пісаў свае творы на роднай мове, многія з якіх былі перавыдадзены ва Украіне пасля здабыцця незалежнасці. Некалькі дзесяцігоддзяў працаваў настаўнікам і дырэктарам украінскіх суботніх школ у Мельбурне. Ён вучыў, пісаў праграмы, інспектаваў, давёўшы колькасць гэтых школ да 55 з 2000 вучнямі. Заснаваў і ўзначаліў Літаратурна-мастацкі клуб імя Васіля Сіманенкі. Будучы сябрам Аб'яднання ўкраінскіх пісьменнікаў «Слова», кіраваў аўстралійскім аддзяленнем гэтай арганізацыі. Узначальваў Украінскую цэнтральную школьную раду ў Аўстраліі.

# Прэмія «Крылы Дэдала»

Адбылася цырымонія ўручэння польскай літаратурнай прэміі «Крылы Дэдала» за 2020, 2021 і 2022 гады. Лаўрэатамі Прэміі сталі адпаведна Малгажата Мусяровіч, Ян Тамкоўскі і Пётр Вяржбіцкі.

NAGRODA
LITERACKA
SKRZYDŁA
DEDALA

«Крылы Дэдала» заснавала Нацыянальная бібліятэка Польшчы ў 2015 годзе. Гэтая адзнака штогод прысуджаецца за кнігу ці жыццёвыя заслугі ў галіне мастацкай літаратуры з асаблівым акцэнтам на прозе, літаратурна-мастацкай крытыцы, гісторыі і грамадскіх праблемах у шырокім разуменні. Пры ацэнцы журы ўлічваюцца важныя пазнавальныя каштоўнасці твораў аўтараў-намінантаў, а таксама нестандартнасць меркаванняў, смеласць і дакладнасць думкі, прыгажосць слова. Лаўрэат Прэміі атрымлівае віншавальны ліст і грашовую прэмію за кошт сродкаў Нацыянальнай бібліятэкі.

# «Маленькі прынц» стаў... «Прынцэсай»

У Ізраілі паступіла ў продаж новая версія перакладу алегарычнай аповесці-казкі французскага пісьменніка Антуана дэ Сэнт-Экзюперы «Маленькі прынц». У гэтым выданні галоўнага героя вырашана было зрабіць дзяўчынкай, а сама кніга атрымала назву «Маленькая прынцэса».

«Маленькая прынцэса» стала першым выданнем у серыі кніг для дзяцей, у межах якой вядомыя літаратурныя творы будуць прадстаўлены ў новым варыянце з улікам барацьбы за гендэрную роўнасць: галоўныя героі мужчынскага полу будуць заменены жаночымі персанажамі.




Кнігавыдавец буйной ізраільскай сетні кніжных крам «Стэймацкі» тлумачыць гэтую ідэю тым, што большасць герояў твораў для дзяцей, паводле падлікаў кампаніі, маюць мужчынскі пол. *«Толькі 31% галоўных персанажаў дзіцячых кніг жаночага полу. Такім чынам, каб прасоўваць гендэрную роўнасць у дзіцячай літаратуры на іўрыце, у «Стэймацкі» вырашылі запусціць гэты праект <...>, які заклікае пісьменнікаў і пісьменніц ствараць дзіцячыя кнігі з жаночымі протаганістамі. Мы ў «Стэймацкі» верым, што мова і словы маюць сілу, якая дазваляе змяняць рэчаіснасць, і мы заклікаем усіх дзяўчынак, дзе б яны ні былі, станавіцца гераінямі сваіх гісторый»,* — гаворыцца ў заяве выдавецтва.

«Маленькі прынц» быў упершыню апублікаваны ў 1943 годзе ў ЗША. Малюнкі для кнігі былі выкананы самім аўтарам. На гэты час «Маленькі прынц» выдадзены агульным тыражом звыш 150 мільёнаў экзэмпляраў. Аповесць перакладзена больш як на 450 моў і дыялектаў. Па колькасці перакладаў яна саступае толькі Біблії.

Дарэчы... Савецкія перакладчыкі таксама смела перантваралі мужчынскіх герояў класічных казак у жаночых гераінь. Напрыклад, Багіра ў «Маўглі» ў арыгінале мужчынскага полу, як і Сава ў «Віні-Пуху».

# «Экстрэмісцкія» кнігі Брытаніі

Сучасныя тэндэнцыі ў заходніх грамадствах не перастаюць здзіўляць. Як паведаміла брытанская газета «Daily Mail», аддзел даследаванняў, інфармацыі і камунікацый пры Міністэрстве ўнутраных спраў Злучанага Каралеўства прадставіў вынікі праекта пры антытэрарыстычнай праграме «Prevent» («Прадухіленне»). Паводле яе праводзіліся пошукі прыкмет «ультраправага экстрэмізму» і ідэй «белай перавагі» ў мастацкіх (і не толькі) творах. У тым ліку (і галоўным чынам) — класічных. І гэтыя прыкметы былі выяўлены...

У спісе пісьменнікаў, якія, на думку аўтараў даследавання, натхняюць расістаў і крайніх нацыяналістаў на свае супрацьпраўныя дзеянні, фармуючы іх светапогляд, аказаліся Уільям Шэкспір, Дж. Р. Р. Толкін, Рэдзьярд Кіплінг, Джэфры Чосэр, Гілберт Кіт Чэстэртан, Альфрэд Тэнісан, Джон Мільтан, Томас Берк, Джозэф Конрад, а таксама — што ў гэтым кантэксце асабліва іранічна — Джордж Оруэл і Олдас Хакслі. Таксама «пад раздачу» патрапілі і фільмы з серыяламі паводле тэкстаў згаданых аўтараў.

Невядома, якія наступствы чакаюць «небяспечныя» працы, але нядаўняя навіна аб намеры брытанцаў перарабіць творы Роальда Даля ў «больш адпаведныя духу XXI стагоддзя» спараджае трывожныя думкі.

# На якія грошы жывуць нямецкія паэты

«Не прадаецца натхненне, але можна рукапіс прадаць», — пісаў паэт. А што рабіць, калі за рукапіс плацяць сімвалічныя грошы ці наогул — нічога? На што жывуць, напрыклад, паэты і паэткі ў Нямеччыне?

Штогод там прысуджаюцца і ўручаюцца каля ста літаратурных прэмій і стыпендый. У Нямеччыне кожны год выходзіць каля паўтысячы паэтычных зборнікаў. Статыстыка ахоплівае, зразумела, толькі камерцыйныя выданні, якія паступаюць у продаж. Лічыцца, што яшчэ столькі ж вершаваных кніг іх аўтары выдаюць самі, за свой кошт (магчымасцяў у Нямеччыне для гэтага вельмі шмат, а каштуе такі «самвыдат» для немцаў, у параўнанні з беларусамі, не многа).

Значная частка вершаваных томікаў, якія з'яўляюцца на прылаўках нямецкіх кнігарняў, — гэта, вядома ж, кнігі паэтаў-класікаў, якіх ужо няма на нашай грэшнай зямлі. Але іншыя паэты, якія яшчэ жывуць, атрымліваюць ад выдавецтваў ганарары. Аднак жыць на іх немагчыма. Паэтычныя зборнікі прадаюцца слаба, ды і кошт у іх нізкі, так што за зборнік, выдадзены накладам 1000 асобнікаў, аўтар атрымлівае ад выдавецтва звычайна ад 500 да 1000 еўра. І калі нават шчаслівчык будзе выдаваць вершаваныя зборнікі кожныя 3—4 месяцы, яго ганарар ледзь перавысіць пражытковы мінімум у Нямеччыне...

Многія нямецкія паэты з задавальненнем выступаюць перад чытачамі: большасць — бясплатна, але самыя папулярныя атрымліваюць ад кнігарняў, бібліятэк ганарары за выступы. Звычайна плацяць 100—200 еўра за вечар. Калі выступ арганізоўвае які-небудзь багаты культурны фонд ці музей, могуць заплаціць і 500 еўра. Але такія выступы здараюцца не часта, ды і канкурэнцыя высокая.

Дык на якія сродкі жывуць нямецкія паэты?

Хто як. Даўно прайшлі тыя часы, калі літаратараў утрымоўвалі мецэнаты (як, напрыклад, Рыльке ці Клопштока, якому прызначыў пажыццёвую стыпендыю дацкі кароль). Праўда, сёння ў Нямеччыне існуюць разнастайныя стыпендыі для дзеячаў мастацтва, але іх не так шмат і плацяць іх абмежаваны час — максімум год.

Хтосьці з паэтаў жыве на сацыяльную дапамогу. Гэта 300—400 еўра ў месяц плюс, сама меней, частка кватэрплаты, бясплатная медыцынская страхоўка. Не густа, затое не трэба хадзіць на працу, можна з раніцы да вечара рыфмаваць, рыфмаваць, рыфмаваць... і не лічыцца дармаедамі.

Дарэчы, літаратурныя прэміі, якіх у Нямеччыне мноства, дапамагаюць маладым і масцітым літаратарам — некаторыя з іх складаюць у грашовым эквіваленце некалькі дзясяткаў тысяч еўра...